# ПОЛАЦАК

Выданьне беларускага культурна-
асьветніцкага цэнтру
Кліўленд
ЗША



*№5(35), 1994*



*Аб адкрыцьці помніка Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі чытайце на бач.27-**31***

# Polatsak



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

# Зьмест

*Наша гісторыя*



*З архіваў КДБ*



*Памяць зямлі*



*Роднае слова*



*З эмігрнцкіх выданьняў*



*Згукі Бацькаўшчыны*



На першай бачынцы вокладкі: Пячатка князя Вялікага княства Літоўскага
На развароце: **Вячаслаў Усакоў**. «Зачараванае царства»
На трэцяй бачынцы вокладкі. ЗША, штат Паўдзённая Дэкота. Помнік амэрыканскім Прэзыдэнтам Вашынгтону, Джэферсону, Т. Рузвальду, Линкольну «Гара Раш Мор Меморыял»
На чацьвёртай бачынцы вокладкі. **Міхась Басалыга**. «Індэец»

# НАША ГІСТОРЫЯ

## Помнік дробнай плястыкі з Полацка

Сяргей Тарасаў
У. Мілюцін

Да другой паловы 80-х гг. у Полацку археолагі вывучалі ў асноўным выключна помнікі IX—XIII ст.: першапачатковае гарадзішча, старажытнае паселішча, Верхні замак, пасад у Запалоцьці. У 1987-1988 гг. упершыню дасьледаваліся культурныя напластаваньні гандлёва-рамеснага горада XIУ—XУII стст. У самым цэнтры пасада быў закладзены раскоп агульнай плошчаю болей за 1100 кв.м. Раскопкі дазволілі прасачыць храналёгію і тапаграфію гэтага раёну Полацка ад канца X ст. да сёньняшніх дзён.

Наздвычай цікавым было тое, што фактычна ўпершыню ў горадзе падрабязна дасьледываліся наплястаньні XIУ-XУII стст. па сваёй сумарнай магутнасьці яны адпавядаюць культурным плястом т.зв. раньнефэадальнага пэрыяду. На вялікі жаль, на



*Раскопкі ў Полацку 1986 г. На месцы старадаўняга паселішча IX—X стст. Сучасная тэрыторыя стадыёна «Спартак»*

дасьледаванай плошчы Вялікага пасаду практычна адсутнічала грамадзянская забудова ХІУ—ХУІІ стст. Разам з тым у раскоп трапіла некалькі вуліц, на насьцілах якіх і ў непасрэднай блізкасьці ад якіх былі знойдзены мастацкія вырабы, што зьяўляюцца аб'ектам дадзенага артыкула. Знойдзена каменная плітка з надзвычай высокамастацкай выяваю «Пагоні» й «Аленя». Але перш чым перайсьці да разгляду гэтага артэфакта, неабходна вылучыць дадзеныя, якія маглі-б нам больш дакладна вызначыць храналёгію гэтага помніка. Драўляны вулічны насьціл і, адпаведна, ўсё тое, што было знойдзена на ім ці побач яго, разьмяшчаліся на мяжы двух добра вылучаных стратэграфічных плястоў. Верхні— чорнашэрага колеру з крапінамі гліны і парахні. Ён быў пашкоджаны рознымі перакопамі, як сучаснымі, так і старадаўнімі. У ім было знойдзена шмат рэчаў, характэрных для канца ХУІ—пачатку ХУІІ стст. Сярод іх кафля, трохшыпныя абутковыя падкоўкі (пераважна высокія) вырабы са скуры. Ніжэй знаходзіўся слой інтэнсыўнага чорнага колеру, насычаны спекшыміся шлакамі. Ён нёс на сабе адбіткі моцнага пажару.

Дасьледаваная вуліца знаходзілася на мяжы двух стартыграфічных гарызонтаў. Менавіта на яе насьцілу, побач з пракладзеным у нашыя часы водаправодам, была знойдзена каменная плітка. У адным слаі з ёю апынуўся таксама металічны музычным інструмэнт—арган, некалькі конскіх падковаў, тытунёвая люлька. Практычна, на адным узроўні з вуліцаю дасьледаваны рэшткі гаспадарчай пабудовы, што стаяла побач. Яна захавалася на 4 вянцы. Каля поўночна-заходняга кута пабудовы падчас раскопак выяўлены невялічкія распісаныя кубачкі, кафля з раслінным арнамэнтам.

У плане датаваньня самога вулічнага насьцілу цікавая такая акалічнасьць Непасрэдна пад насьцілам з драўляных плах у адным з квадратаў знойдные ключ цыліндрычнага замка, блізкі па форме да наўгародзкага тыпу «Е». Падобныя ключы бытавалі з другой паловы ХІУ ст.[1] Побач з насьцілам, на адным зь ім узроўні, знойдзена фігурка шахматнага ферзя. Вышыня Фігуркі 7.2 см. Вытачаная на такарным станку, яна мае складаную форму, аздоблена цыркульным арнамэнтам і інкрустацыяй зь металу жоўтага колеру. Ферзь падбоны на полацкую фігурку, знойдзеную на раскопках у Пскове і датаваную ХУІ—ХУІІ стст. [2]



Ключ ХУ ст., які быў знойдзены ў Полацку 1986 г.

Але безумоўна, адной з самых цікавых і загадкавых знаходак зьяўляецца каменная плітка з геральдычнымі выявамі. Плітка з камня пескавіка, таўшчыня яе 20 мм. Яна мае няправільную чатырохкутную форму (памеры 49,5 х 48.5х 43 х 51мм). На плоскіх паверхнях таварнага і адваротнага бакоў маюцца выявы ўзброеннага вершніка з паднятым мячом (Пагоня) і бягучага аленя.

Адразу зьвяртаюць на сябе ўвагу дзьве асаблівасьці: па-першае, тое, што выявы разьмешчны на супрацьлеглых баках каменя, па-другое, на камені выразны негатыўныя адлюстраваньні. Апошняе можа тлумачыцца толькі тым, што дадзеная плітка —штамп, або матрыца для вырабу пазытыўных выяваў. Пры пільным разлядзе няцяжка заўважыць, што разьметка колаў рабілася пры дапамозе цыркуля, ад якога ў цэнтры кожнай выявы засталіся кропкі. Таксама трэба адзначыць, што работу (разьбу) выконваў вопытны майстра, з выдатным мастацкім густам. Яму ўдалося спалучыць выявы з размечаным полем. Мастак-рамесьнік валодаў у значнай ступені пачуцьцём меры. Пры разьбе аленя ён удала запаўняе віньеткаю, узьнікшую ў нізе пустату. Але найбольш удала майстар перадаў аб'ём фігуры. Зробленыя намі на воску пробныя адбіткі паказалі, што ўсе дэталі выяваў глядзяцца рэльефна выразна, не зьліваюцца і не перакрываюцца адна адной. За кошт удалага спалучэньня глыбіні разьбы, майстру ўдалося стварыць матрыцы, якая пры адбітку давалі выразны рэльеф. Безумоўна, што гэтая каменная плітка і выявы на ёй зьяўляюцца выдатнейшым помнікам старадаўняй беларускай мастацкай дробнай плястыкі.

Але разм з тым узьнікаюць некаторыя пытаньні, на якія, па мачымасьці, трэба адказаць. Адно зь іх: як вызначаецца прыналежнасьць дадзеных выяў, другое —якая функцыянальная прыналежнасьць гэтай пліткі?

Выява ўзброенага вершніка выразна на адным з камянёў у кропкавым абадку дыяметрам 37, 7 мм. Гэта эмблема была шырока вядомай у сярэднявяковай Эўропе. У Вялікім княстве гэта быў дзяржаўны герб, які меў назву «Пагоня». Летапісныя крыніцы дазваляюць высьветліць ня толькі час яе ўзьнікненьня, але сэнсавую нагрузку, якую гэтая выява несла. У 1278 г. *«Витень нача княжити над Литвою измысли себе герб и всему князеству Литовскому печать: рыцерь збройный на коне з мечем, еже наричут погоня»* [3]. У хроніцы Быхаўца гэтак сама адзначаецца, што *«Нарымонт, коли сел на Великом князьстве Литовском, герб свой Китаврос заставил братии своеи, а особе уделал герб —человека на кони с мечом, а то знаменуючи через тот герб пана дорослого, хто бы мог боронити мечом отчины своее»* [4]

Па прыведзеных вышэй дакумэнтальных зьвестках прасочваецца зьмяненьне функцыяў гэтай эмблемы (герба), як асабістай —родавай (зямельнай) —дзяржаўнай.

Па дадзеных К. Нясецкага і У. Каяловіча, «Пагоняю» карысталіся нашчадкі вялікага князя Гедыміна (11316-1341)—князі Чартарыйскія, Капыльскія, Карэцкія, Карыятовічы, Кашырскія, Ковельскія, Сангушкі, Слуцкія [5]. Па зьвестках Б.Папроцкага і А. Гаваньні, выява «рыцара збройніка на кані» была на харугвах гарадоў: Менска, Наваградка, Мсьціслава, Віцебска, Смаленска, Вільні, Трока, Драгічына; Берасьцейскага, Мсьціслаўскага, Менскага, Віленскага і Наваградскага ваяводстваў, Полацкага і Рэчыцкага паветаў. У кіеўскім ваяводстве акрамя пячаткі з «Пагоняй» карысталіся пячаткамі Архангела Міхаіла, а на Пад-

ляшшы разам з «Пагоняй» —арлом .[7]

Выкарыстаньне «Пагоні» ў якасьці дзяржаўнага герба на пячатках рэгламентавалася Статутам Вялікага княства 1566 і 1588 гг.

Сярод шматлікіх адбіткаў «Пагоні» й яе выяваў «Пагоня» на каменнай плітцы з Полацка блізкая той, якую апісвае Старапольская энцыкляпэдыя З.Гліогера: *«Пагоня»—герб ВКЛ, які адлюстроўвае ў чырвоным полі пад княжацкай шапкаю альбо мітраю ўзброенага вершніка ў шаломе. У правай руцэ ў яго меч, якім ён замахваецца, а ў левай—шчыт, з выяўленным на ім залатым падвойным крыжам. Пад вершнікам белы конь, які скача, пакрыты чырвоным, амаль да самых капытоў чапраком з трохчастнаю залатою махрою»*[8]

Найбольш распаўсюджана выява «Пагоні» ў межах ВКЛ была на пячатках і манэтах. Яны дазваляюць прасачыць розныя зьмяненьні ў выяве гэтага герба, што ў сапастаўленьні дае магчымасьць вызначыць дату вырабу полацкай знаходкі.

Найбольш блізкія па стылю выявы «Пагоні» знаходзяцца на манэтах і пячатках ХУІ—ХУІІ стст.[9] Падобная хада каня ўжо ёсьць на манетах Зігізмунта І Старога (1506-1544). На некаторых зь іх сустракаецца кручкападобны, выгнуты долу хвост. Меч, як на полацкай плітцы, пачынае займаць такое-ж палажэньне на манэтах канца ХУ—першай паловы ХУІ стст. На некаторых манэтах другой чвэрці ХУІ ст.— ужо сустракаецца такі самы шчыт. Апошні ў такім выглядзе прасочваецца ажно да манэт Яна Казіміра (1649-1668)уключна. Пры Зыгмундзье Аўгусьце (1545-1572) на пячатках зьяўляецца трохчастная махра чапрака. Але-ж на манэтах яна бачна і пры Зыгмунце III (1587-1632) у межах 1611-1614 гг. Пры ім-жа на літоўскіх грошах 1614-1627 гг.



*Дзьвюхбаковая пячатка з «Пагоняй» і «Аленем». Раскопкі ў Полацку на Вялікім пасадзе 1988 г.*

зьяўляецца шышкападобны шалом, які ў такім выглядзе на пячатках быў вядомы і раней. Разам з тым,самая блізкая аналёгія выяве «Пагоня» з Полацка ёсьць на літоўскім грошы 1611 гг.

Такім чынам, аналіз выявы «Пагоня» дазваляе датаваць выраб каменнай пліткі з геральдычнымі выявамі часам праўленьня Зыгмунта III (1587-1632), магчыма, першымі дзесяцігодзьдзямі ХУІІ ст. Апошняе не пярэчыць археолягічнай стратыграфіі знаходкі.

На адваротным баку каменнай пліткі ў лінейным абадку (дыяметр 39 мм) выразана таксама негатыўная выява «Аленя», пад якім зьмешчана дэкаратыўная віньетка, Частка выявы і віньеткі адбіта яшчэ ў старадаўнія часы.

У выданьнях па геральдыцы гербы з «Зеленем» называюцца «Брохвіч» і «Аполе».

«Брохвіч»— у белым полі чырвоны алень, зьвернуты ў левы бок. У аленя залатая карона на шыі, нашаломнік з паўлінавага пер'я. Вытокі герба ў Нямеччыне. Вядомы варыянты, калі алень бывае зьвернуты ў правы бок і без кароны на шыі. Бывае адлюстраваньне толькі пярэдняй паловы аленя, якая выходзіць у залатым полі з паўмесяца, зьвернута рагамі да ніжняга левага кута. Месяц залаты, пад ім залатая зорка. На паўлінавым нашлемніку бачны залаты месяц рагамі ўніз, пад ім такая-ж самая зорка. Такі герб—алень з каронаю на шыі—меў род Собкі, а без кароны —Вікторы, Ваякоўскія, Концкія, Паломскія, Грабаны , Шалеўскія, Дабрачэцкія, Брушкоўскія, Палецкія. [10]

Герб «Аполе».— у чырвоным полі чорны алень зь сярэбранай повязьзю. Над шаломам у шляхецкай кароне—залатыя рогі. Паходзіць зь Сілезіі. Аб гэтым сьведчаць сілезкія пячаткі 1282 г. Міхаіла з Сосніцы, каштэляна Вроцлаўскага і 1321 г. Стэфана з Пархава—землеўлададальніка княства Польскага Адсюль і назва герба — «Аполе». У судовых запісах ён зьяўляецца з 1414 г. Карысталіся гэтым гербам Фаленцкія, Гладышы, Ільманоўскія, Паблоцкія, Руткоўскія, Шчыглевічы—Шчуцкія, Вракскія (Враніцкія)[11]

Выяву «Аленя» можна знайсьці на пячатках ХІІІ—ХІУ стст. некаторых польскіх гарадоў: Добра Място, Еленя Гура, Каменьчык, Мілакова [12]. У Беларусі — у гербе Гародні. Гэта была выява ў блакітным полі з залатым крыжам паміж рагамі —так званы «Алень св. Губерта», заступнік паляўнічых (між іншым, на некаторых пячатках горада алень ня мае крыжа) [13]. У Расеі аленя можна знайсьці на зямельных пячатках Ніжняга Ноўгарада і Растова. На дзяржаўнай пячатцы Івана ІУ Жахлівага алень зьмешчаны таксама як эмблема Кандзінская [14]

У польскага Люблінскага ваяводства таксама быў падобны герб. У чырвоным полі шчыта бягучы белы рагаты алень з каралеўскай каронай на шыі. [15].Разам з тым, у Я. Ябланоўскага ў апісаньні састаўных частак пячаткі ВКЛ маецца цікавае ўдакладненьне: «Алень Княства Віцебскага, якому разам з ваяводства Люблінскім таксама карыстаючы Аленя ў якасьці герба, на Сейме 1569 года ўліку ваяводстваў пакладзены»[16]

Такім чынам, зыходзячы з вышэй прыведзенага, найбольш верагодны, на наш погляд, трэба прызнаць,А што знойдзеная выява «Аленя» ў Полацку» зьяўлялася гербам ваяводства Віцебскага.Само ваяводства бы-ло ўтворана ў 1506 г. і праіснавала да першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. У 1597 г. Віцебск атрымаў Магдэбургскае права. Застаецца, праўда, пытаньне, чаму толькі ў адной

крыніцы згадваецца герб такога вялікага і багатага ваяводства, чаму ён адсутнічае на вядомых дасьледчыкам пячатках і дакумэнтах? Магчымы розныя тлумачэньні. Адно зь іх—нейкая сувязь паміж выкарыстаньнем гэтага герба і падзеямі 12 лістапада 1623 г., калі ў Віцебску адбылося забойства вуніяцкага архіяпіскапа Іасафата Кунцэвіча. Вядома, што пасьля гэтага горад на пэўны час пазбавілі магдэбургскага права. У прыватнасьці, забарона карыстацца ваяводскай пячаткаю. Калі знойдзеная каменная плітка —дзьвюхбаковая пячатка, то яе семантыка становіцца цалкам зразумелай: «Пагоня»—абагульняючы дзяржаўны герб ВКЛ, «Алень» — удакладняючы герб ваяводства Віцебскага. Калі гэта так, то адпаведна вызначанай храналёгіі гэта пячатка магла належаць непасрэдна Сымону Самуэлю Сагушка (памёр у 1638 г.), як і ў тыя часы быў ваяводаю віцебскім і меў права карыстацца гербам «Пагоня»[17]

Разам з тым неабходна адзначыць, што прыналежнасьць полацкай каменнай пліткі з геральдычнымі выявамі для пячатак — толькі адзін з магчымых варыянтаў яе выкарыстаньня. Яна магла быць матрыцаю для пячаткі (не выключана, што фальшывай), штампам для кляйменьня тавараў (воску, паглін, кафлі), штампам для адбітку мэдальёнаў на скуры, ліцейнай формай.

Разглядаючы полацкую плітку ў якасьці пячаткі, адзначым, што яе памеры трошкі меншыя за малую пячатку Вялікага князя і цалкам адпавядаюць ваяводзкай пячатцы. Але-ж апошнія рэзаліся звычайна на срэбры, медзі, бронзе, жалезе і нават олаве. На камені-ж рабіліся толькі сыгнеты. Але ў гэтым выпадку яны ўстаўляліся ў пярсьцёнкі або ў падыходзячую па памерах рукаяць, навершы рыкаяці мяча ці шаблі. Калі-б гэта была акрамя ўсяго фальшывая пячатка, то трэба прыгадаць і тое, што падробка дзяржаўных пячатак, адпаведна Статуту Вялікага княства Літоўскага, каралася спаленьнем на вогнішчы. Акрамя таго, у тым-жа Статуце агаворвалася, што на пячатцы, якая давалася кожнаму павету з гербам ВКЛ —«Пагоняй» — павінен быць надпіс: «каля герба найменя таго павета». Адсутнасьць падобнага надпісу не дазваляе адназначана аднесьці полацкую знаходку да пячатак.

Магчыма, растлумачыць прызначэньне гэтай пліткі ў некаторай ступені дапаможа артыкул 36 з III часткі Статута 1588 г. «Аб мерах...». У ім адзначаецца, што ва ўсіх гарадах і мястэчках ВКЛ і дамах гасьцінных, па дарогах збожжа прадавалася мераю роўную, аднолькавай. З гэтай мэтаю «вряд» гарадскі, ваяводскі, стараставы і замкавы павінен мець кляймо. І кляймо на тых мерках *«врядавых павінны накласьці, каб дзежка была ў чатыры карцы... Катора мера павінна быць у гарадах і на торжышчах, авінах і карчмах княжацкіх і земянскіх»*. У сувязі з гэтым цікава, што ў зрубнай будыніне, якая знаходзілася побач з месцам знаходкі полацкай пліткі і якую мы прыгадвалі вышэй, у куце стаяла дзежка. Нягледзячы на тое, што клёпкі дзежкі захаваліся не на поўную вышыню, тым ня менш можна зрабіць прыблізную рэканструкцыю яе аб'ёму: каля 200 літраў ці недзе —2 карца.

Улічваючы, што побач з гэтым зрубам не былі ні жытла, ні якой іншай грамадзянскай забудовы, можна дапусьціць, што менавіта тут знаходзілася гарадская «важніца», якая ўпершыню прыгадваецца ў «Прывілеі» Полацку на Магдэбургскае права 1498 г., а потым у Справах Полацкага гарадскога суда пад 1538 г.[18] Магчыма, што некаторыя транзітныя тавары, якія прыходзілі на

полацкую «важніцу», былі разьлічаны на продаж у Віцебскім ваяводстве. Адпаведна гэтаму іх і кляймілі. Так ці іначай, полацкая знаходка зьяўляецца выдатным помнікам гісторыі і мастацтва Беларусі часоў фэадалізмау. Яна сьведчыць аб высокім узроўні разьвіцьця мастацкай культуры, адметных традыцыях дробнай пластыкі папярэдніх стагодзьдзяў.

### Літаратура


1. Колчин Б.А. Хронология новгородских древностей. Новгородский сборник, М., 1982, с .160-162

2. Овсянников О. В., Царькова А. А. Охранные работы на территории Застенья и Окольного города в 1973 и 1974 гг. Археологическое изучение Пскова, М., 1983, с. 131, 135.

3. ПЭРЛ, т.32 Дадатак да Іпацьеўскага летапісу, с. 246.

4. Тамсама, т. 35, М., 1980, с. 119

5 Niesiecki K. Herbarz Polski, Lipsk, 1839. t. 1.

Kojalowicz W.W. Herbarz rycerstwa W. X. Litewskie go tak zwany compendium. Krakow, 1897, s. 9-15

6. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1896 с. 475

7. Gloger Z. Enzyklopedia Staropolska, t. 4, Warszawa, 1978, s. 53

8 Gumowki M. Mennica Wilenska w XVI-XVII wieku /Warszawa, 1921;

Zebrawski T. O pieczeciach dawneh Polski i Litwy// Krakow, 1865

9 Paprocki V.Herby rycerstwa polskiego, Krakow, 1858, s. 721-722

Лакиер А. Б.Русская геральдика М., 1990, с. 261,

Lablonowski J.A. Hersidika to iest osada kleynotow rycerskich y wiadomosc... znakow Herbownych dotad w Polszcze nie obiasniona., Lwow, 1752. s. 50

10 Wielka Enciklopedya Powszechia Iliustrowana. t. 31-32, Warszawa, 1903, s. 830.

11. Gumowski M. Najstarsze pieczencie miast polskich XIII i XIV wieku. Tarun, 1960, n. 77, 160-161, 176, 278

12 Цітоў А. Гарадская геральдыка Беларусі, Мн., 1989 , с. 25, 96

13 Соболева Н.А.Старинные гербы российских городов М., 1985, с. 128

14 Raprocki, V. Herby rycerztwa polskiego, s. 909,

Wieladek W.W. Heraldyka czyli opisanie herbow, w hakim ktory hest ksztalcie, oraz, familie rodowitey Sziahty Polskiey, i W. X. Litewskiego, z ich herbami, t. 1., Cz. 1. Waszawa, 1792, s. 122-125.

15 Jablonowki H.a. Herbaldika... s. 40

16 Kohalowicz W..W Herbarz.... s. 13

17 Полацкие грамоты м., 1978, т. 2., с.155, Беларускі архіў, Мн., 1928, т. 2., с. 286




# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў

## *Магілёўская вобласьць*

Міхась Белямук

**Абідавічы, Быхаўскі р-н**

У 1926 г. І. Сербаў раскапаў 8 курганоў і знайшоў сярэбраны драцяны бранзалет і сярэбраны віты пярсьцёнак.

*Сербаў [3] б.18*

**Адаменка, Быхаўскі р-н**

У літаратуры называецца Абідня, якая ёсьць урочышчам каля вёскі Адаменка. У 1962 г. ва ўрочышчы падчас раскопаў Л. Побаль знайшоў вельмі рэдкую медзяную манэту —рымскага імп. Геты (209-211), чаканеную ў горадзе Аўгуста Траяна у Фракі (сучасная Балгарыя). На AV манэты пагрудны партрэт Геты з лаўравым вянком на галаве і надпісам: ГЭТАС СЭВ—AVTKПСЕП. На PV манэты сядзіць, праўдападобна, багіня, якая ў правай руцэ трымае трасьцяну, у левай пасудзіну, зь якой выліваецца вадкасьць. Вакол фігуры надпіс: AVGVCTHC -- TRAINHC.

Неабходна адзначыць, што такой манэты няма ў Эрмітажы і Брытанскім музэі. Манэта была перадзена ў Магілёўскі абласны музэй.

У 1960, 1962 і 1967 гг. Л.Побаль падчас раскопкаў знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

*Побаль [2] б. 389, №38, Побаль [3] б. 127-128 Кропоткин [5] б. 95, №185*
*Побаль [8] б.97 Рябцевич б. 192, №30 Яніцкая б. 125-127, №2*

**Аніліна, Слаўгародзкі р-н**

У 1892 г. М.В. Фурсаў раскапаў курганы з X-XII стст. У адным з курганоў знайшоў маністы з пацерак, паміж было 12 сярэбраных полых пацеркаў і прывеска сярэбраная ў форме рыбкі.

*Яніцкая б. 150, №130*

**Баранавічы, Бабруйскі р-н**

У 1924 г. Інстытут Беларускае культуры разаслаў апытальнік аб знаходках старажытных рэчаў. Атрымалі паведамленьне, што каля вёскі былі знойдзены старажытныя манэты, якія людзі разабралі і няведама, што гэта за манэты.

*Штыхов [2] б. 210, №30*

**Бацьвінаўка, Крычаўкі р-н**

У 1976 г. М. Ткачоў дасьледываў курганны могільнік на правым беразе р. Жукаўка. У адным з курганоў былі знойдзены шклозалочаныя пацеркі і тры арабскія дыргемы, але няведама, хто і дзе чаканіў манэты.

*Равдина б. 31, №25 ЗПБКБ Магілёў б.279, 1475.*



Працяг. Пачатак у №6(16)-3(34)

**Брыцалавічы, Асіповіцкі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курганы і знайшоў шклозалочаныя пацеркі розных формаў.

*Яніцкая б. 150, № 132*

**Быхаў**

У 1946 г. крэпасны вал абсунуўся і людзі, аглядаючы, заўважылі «мяшочак зь сярэбранымі аздобамі з дроту». У гэтым мяшочку таксама былі «арабскія дыргемы». Такое паведамленьне ад краязнаўцы В. Сліжа атрымалі В.Рабцэвіч і А. Стуканаў.

*Рабцэвіч і Стуканаў б. 39, №32*

**Валасавічы, Кіраўскі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч правёў раскопкі кургаоў, у якіх знаходзіў шклозалочаныя пацеркі.

*Яніцкая б. 150, №134*

**Васькавічы, Слаўгародзкі р-н**

У 1925 г. І,. Сербаў і ў 1961 г. Л.Аляксеяў з З. Сяргеявай каля р. Пясчанка раскапывалі курганныя насыпы і знайшлі арабскі дыргем з 911 г.

*ЗПГКБ Магілёў б. 328, №1824*

**Вець, Быхаўскі р-н**

У 1919 г. вецер разьвеяў пясок кургана, і хлопчык П.Няборяў заўважыў гліняны гаршчок, у якім былі бліскучыя сярэбраныя манэты падобныя адна да адной. Людзі іх разабралі, але адна трапіла ў Беларускі Дзяржаўны музэй. Манэта была арабскім дыргемам Саманідаў з Самарканду 913/4 г. Ахмад ібн Ісмаіла.

*Харлаповіч б. 322, №64 Фасмер [2] б. 291, №36*

**Віркаў, Клічаўскі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў 11 кургаоў і знайшоў шклозалочаныя пацеркі. Праўдападобна, што тады ён знайшоў залататканую істужку (ленту), якая знаходзіцца ў расейскім гістарычным музэі. М.В.Фехнер успамінае аб ёй, але не называе году й абставінаў знойдзеньня. Такія залататканыя істужкі выраблялі ў Бізантыі і былі дарагімі падарункамі імпэратараў у X-XII стст.

*Яніцкая б.150, №135 Фехнер б.139, №34*

**Вотня, Быхаўскі р-н**

У нумізматычнай літаратуры называліся мясцовасьці Вотня й Абідавічы, як месцы знойдзеньня манэтаў арабскіх і кіеўскіх. Знаходкі манэтаў прыпісывалі Н.М. Турбіну і А.С. Увараву. Толькі ў 1979 г. Т. В. Раўдзіна пераканаўча даказала, што ўсе публікацыі зь інфармацыямі памылковыя, што знайшоў манэты штабс-капітан Нечаеў у 1873 г. Ён у фальварку Вотня ў 1873 г. раскапаў 2 курганы і знайшоў сярэбраныя манэты кіеўскага

князя Уладзімера Сьвятаславіч: дыргемы арабскія ды сярэбраныя аздобы. Т.Раўдзіна піша: «Некаторыя рэчы з двух курганоў ён (Нячаеў) раздаў сваім прыяцелям. Пасьля нейкага часу Нячаеў аб раскопках расказаў палкоўніку Н.М. Турбіну, каторы сабраў рэчы і 1877 г. перадаў іх графу А. С. Увараву.».Аднак сумніўна, каб Н. Турбін змог сабраць усе знойдзеныя Нечаевым рэчы, паколькі мінула 4 гады . Ведаем, што ён А. Увараву перадаў толькі 3 сярэбраныя манэты кн. Уладзімера, а чацьвёртую абяцаў прыслаць, але абяцаньне ня выканаў. Адносна дыргемаў,то Н. Турбін перадаў не манэту, а гальванакопію, павядоміўшы ,што маецца 2 арабскіх дыргемы. У нумізматычнай літаратуры ў Маркава, Любамірава, Потіна арабскі дыргем прыпісаны Абасыдам Гарун ар-Рашыду. У сапраўднасьці, як расчытаў В.С. Муралевіч, ён належыць Саманідам, чаканены ў Самаркандзе 981/2 г. Нух ібн Мансурам. Адносна другога дыргема інфармацыяў няма.

Сярэбранікі кіеўскага князя Уладзімера Сьвятаславіча ёсьць першага тыпу, яны маюць вушка, значыць, былі выкарыстаныя як падвескі і чаканеныя пасьля 988 г., бо на адной старане выява Хрыста.

Што да аздобаў, то частка іх зроблена зь серабра: скранёвае сяміканцовае кальцо і кольцы дыяметрам 42 мм з дроту.

*Марков б. 25, №138* *Любомиров б. 23* *Потин [6] б. 90, №94, 98,*
*ЗПГКБ Магілёў б .152, №607 Б* *Сотникова и Спасский б. 56, №17*
*Равдина б. 37, №40,* *Равдина [2] б.91* *Богомольников и Равидна б. 207-213*

**Гарожкі, Асіповіцкі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі розных формаў.

*Яніцкая б. 151, №137*

**Гарожы, Асіповіцкі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі .

*Яніцкая б. 151, №138*

**Глуск**

У 1962 г. падчас пракладкі вадаправоднай трубы экскаватар выкінуў на паверхню сярэбраныя манэты, якія дзеці і людзі разабралі. Што гэта за манэты вестак не атрымалі.

*Літаратура і мастацтва (газэта) Мн., 1963, 5 студзеня б.3*

**Горацкі р-н**

Эрмітаж атрымаў арабскі дыргем, знойдзены перад 1940 г. у Горацкім районе, але інфармацыяў няма, дзе чаканеная манэта і кім.

*Рабцэвіч і Стуканаў б. 39, №31*

**Дубейкава, Мсьціслаўскі р-н**

У 1890 г. Е. Раманаў раскапаў 3 курганы і знайшоў 66 шклозалочаныя і 7 шклосярэбра-

ныя пацеркі і шарык-званочак пазалачаны.

*Яніцкая б. 128, №9, б. 151, № 139 Штыхов [2] б.227, № 304*

*Соловьева б. 60, №54*

**Дулебна, Клічаўскі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі розных формаў.

*Яніцкая б. 151, №140*

**Дымава, Шклоўскі р-н**

У 1885 г. Н.М. Турбін раскапаў некалькі курганоў, знайшоў сярэбраныя аздобы.

*«Древности» (Московского Арх. Общ.) М.1886, т.IX, вып.2, б. 83-86*

**Заполье, Клічаўскі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курган, у якім знайшоў абломак сярэбранай пласьцінкі з XI—XIII стст.

ЗПГКБ Магілёў б. 248, № 1255

**Ігнатаўка, Клімавіцкі р-н**

У 1892 г. С. Ю. Чалоўскі раскапываў курганы на беразе р.Сож. Знайшоў сярэбранае скранёвае кальцо і пацеркі сярэбраныя.

*Соловьева б.61, №71*

**Калодзецкая, Касьцюкавецкі р-н**

У 1973 г. Я.Е.Рыер дасьледываўкурганы на беразе р .Дзеражні і знайшоў 2 білонавыя бранзалеты, 10 шклозалочаныя пацеркі, сярэбраныя скранёвае кальцо і пярсьцёнак.

*Рыер б.30, Рыер [2] б.188*

**Каменка, Шклоўскі р-н**

Каля 1912 г. Е.Раманаў раскапаў курган на беразе р. Днепр і знайшоў на левай руцэ пакойніцы сярэбраны бранзалет, зьвіты з тонкага дроту.

*Романов [6] б.54*

**Карма, Чэрыкаўскі р-н**

У 1884 г. А. Лоначаеўскі каля р. Сож раскапаў 20 курганоў, знайшоў шклозалочаныя пацеркі. У 1888 г. Е .Раманаў раскапаў 3 курганы і знайшоў сярэбранае скранёвае кальцо, зьвітае з тонкага дроту.

*Соловьева б.61, №90 Яніцкая б.128, №14 Романов б.141-142.*

**Клімавіцкі р-н**

У 1804 г. пасутшок Данільчанка знайшоў вялікі скарб сярэбраных і бронзавых

манэтаў. Губернатар пераказаў у казначэйства 1815 манэт, а казначэйства пераслала ў Эрмітаж Келлеру. 17 сьнежня Эрмітаж зьвярнуў манэты казначэйству, адтуль паслалі ў манэтны двор на сплаўленьне. Манэты былі першых *рымскіх імпэратараў*, але ніхто не апісаў іх, бо былі яны «плохой сохранности». Першы, хто даведаўся аб гэтым скарбе, быў Д.Я.Самаквасаў, але ўратаваць скарб было позна.

*Самоквасов б.138, Кропоткин [2] б. 97, № 1386 Кропоткин [4] б.102*
*Рябцевич б.192, №32*

**Крычаў**

У 1971 г. у разбураным кургане знайшлі абломак арабскага дыргема,

*Рабцэвіч і Стуканаў б. 39, № 33*

**Курганьне, Слаўгародзкі р-н**

У 1925 г. І Сербаў раскапаў 4 курганы на правым беразе р. Касалянка і знайшоў 2 сярэбраных нашыйніка.

*Сербаў [3] б.18*

**Лубяны, Бялыніцкі р-н**

У 1968 г. І. Арцёменка, раскапаў курган і знайшоў сярэбранае скранёвае кальцо і абломак сярэбранага кальца.

*Артеменка б.34 Поболь [2], б.387, №14-15*

**Лудчыцы, Быхаўскі р-н**

У 1892 г. С.Ю. Чалоўскі раскапаў 3 курганы і знайшоў сярэбраны бранзалет. У 1973 г. Я. Рыер раскапаў курган і знайшоў 2 шклозалочаныя пацеркі.

Рыер б.29 *Рыер [2] б. 185-186 Яніцкая б.151, №146*

**Любовнічы, Кіраўскі р-н**

У 1901 г. селянін Рудаў прыпадкова падчас сельскагаспадарчых заняткаў знайшоў скарб арабскіх дыргемаў. У скарбе было 1210 манэтаў. Цэлых дыргемаў было 541, паламаных 669. Цэлыя дыргемы паслалі: 47 у Эрмітаж, 56 дыргемаў у Пецярбургскі ўнiверсытэт, 438 дыргемаў у музэй Казанскага ўніверсытэту. Што да паламаных дыргемаў інфармацыі няма, праўдападобна, паслалі на сплаў. Няма інфармацыі адносна цэлых дыргемаў, дзе яны былі чаканеныя, кім і калі.

*Известия Арх. Ком (Прибовления) СПб, 1902, вып. 2., б.31,*
*Отчеты Арх. Ком. за 1901 г. СПб 1903, б. 166, 120*
*Кропоткин б. 93 .№185*

**Любонічы, Кіраўскі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

*Яніцкая б. 151, №147*

**Лянёўка, Клічаўскі р-н**

У 1892 г. У. Завітневіч раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі пяці формаў.

*Яніцкая б. 151, №145*

## *Бібліяграфія*


Полацак №18 Кропоткин [1], Крапоткин [2], Марков, Побаль [2], Побаль [3], Романов, Рябцевич

Полацак №19 Штыхов [2], Яніцкая

Полацак 20 Фехнер

Полацак 21 Сотникова и Спасский

Полацак 22 Равдина, Харлаповіч

Полацак 28 Кропоткин [5]

Полацак 31 Соловьева

Полацак 32 Романов [6]

Л.В.Аляксееў [7] Старажытны Мсьціслаў.—Помнікі ГКБ. Мн. 1971, №1

Л.В.Алексеев. Древний Мстислав. — КСИА, М. 1976, №146

И.И. Атременко. Среднеднепровская экспедиция. — А.О. за 1968. М. 1969

В.В. Богомольников, Т.В. Равдина. О находках монет из Вотни. — Сов. Арх. М. 1979, №2

П.Г.Любомиров. Торговые связи древней Руси с Востоком в УIII—XI вв —Ученые записки саратовского униврсистета. Саратов 1923, т. 1, вып. 3

Л.Д. Поболь [8] Итоги изучения древностей железного века Белорусского Поднерповья. —Древности Белоруссии. Мн. 1969

Т.В. Равдина. Погребения с древнерусскими монетами. —Сов. Арх. М. 1979, №3

Я.Р. Рыер. Аб находках старажтынарускіх помнікаў Магілёўшчыны.—Помнікі ГКБ Мн. 1974, №4

Я.Р. Рыер. [2] Изучение курганов в Могилевском Поднепровье. —Сов. Арх. М. 1976, №2

Д. Я. Самоквасов. История русского права. Варшава 1884, т.2.

І. А. Сербаў. Вынікі археалагічных дасьледваньняў каля Нова-Быхава і на сярэднім Сажы. — Працы Першага зьезду дасьледчыкаў бел. археолягаў і археографаў.17-18 студзеня 1926 г. Мн. 1926

М.В. Фурсов Курганные раскопки в пяти уездах Могилевксой губ. в 1892 г. —Труды IX Арх. съезда в Вильно в 1893 г. М. 1895 г. т.1





*1. Манэта рымскага імпэратара Геты*




*2. Срэбранік кн. Уладзімера*




# Як зьнішчалі генафонд беларускай нацыі

Уладзімір Міхнюк
Якаў Паўлаў

Відавочным вынікам працы камісыі Затонскага зьявілася тое, што ўжо ў другой палове 1929 г. у Беларусі рэзка ўзмацьніліся жорскія нападкі на так званы нацыянал-дэмакратызм, а таксама па яго «агентуру» ў партыі—нацыянал-апартунізм, у вобразе якога мроіўся галоўны класавы вораг. Рэзка зьмянілася ў бок жорскасьці і класавай непрымірымасьці ў ацэнках пазіцыі кіраўніцтва ЦК КП(б)Б, якому Затонскі прад'явіў прэтэзіі ў «перманентных уступках нацыяналістам», «зацяглай палітыцы заігрываньня зь вярхушкай інтэлігенцыі (уключаючы сюды і тую яе частку, якая мае партбілеты), «хатнім разрашэньнем разнагалосьсяў». Дасталося, як выказваўся маскоўскі рэвізор, і «першым піянерам беларускага культурна-нацыянальнага руху»—Купале, Коласу, Жылуновічу, Ігнатоўскаму, Зарэцкаму, Гартнаму, Глыбоцкаму (Дубару), Дубоўку, Ждановічу, Лёсіку і многім іншым.[1] Больш таго, ён скардзіўся на тое, што *«некаторымі дзеячамі першых антысавецкіх урадаў, якія цяпер прадстаўляюць беларускую культуру ў навуковых установах, нават не лічачы ганебным сустракацца з гэтымі «піянерамі» беларускай культуры за шклянкай кавы, а то і больш моцнага пітва»*. Некаторыя-ж кіраўнікі ЦК, як напрыклад, сакратар ЦК Вілевіч *«былога белага эмігранта Некаршэвіча... лічаць цяпер зусім савецкім чалавекам» і патурае яму ў пераутварэньні Інбелкульта ў Акадэмію навук Беларусі.* [2]

Пасьля ад'езду камісіі Затонскага верх у рэспубліцы стала браць тая частка кіруючага складу апарата ЦК КП(б)Б, для якой дырэктывы сталінскага цэнтру зьяўляліся вышэй любых нацыянальных інтарэсаў. Гэта даволі яскрава прасочваецца па зьместу рашэньняў верасьнёўскага пленума 1929 г., якія, па сутнасьці, абгрунтавалі «наяўнасьць» і небясьпеку для Беларусі «контррэвалюцыйнага нацдэмаўскага руху» і вызначылі практычныя меры па яго ліквідацыі. Перамены ў нацыянальнай палітыцы сталі назірацца таксама й у дзейнасьці наркаматаў, партыйных ячэяк, грамадзкіх арганізацыяў, творчых саюзаў і навуковых установаў.

Такім чынам, да пачатку 30-х гадоў жудасны спэктакль пад назвай «нацыянал-дэмакратызм» быў ідэйна і палітычна адрэагаваны. Асаблівае стараньне ў адносінах выкрыцьця непасрэдных носьбітаў нацыянал-дэмакратызму праяўляла газета «Звязда»—цэнтральны ворган кампартыі Беларусі. Дарэчы, Затонскі ў сваім дакладзе даволі настойліва абараняў яе ад крытыкі з боку некаторых аддзелаў і сакратароў ЦК, лічачы гэтую газзету «дастаткова непрыхільнай да нацыяналістаў».[3] Спачатку

Працяг. Пачатак у №3(33)-4(34)

«Звязда» трактавала нацыянал-дэмакратызм як імкненьне паставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй класавых, а нацыянальную форму культуры—вышэй яе пралетарскага зьместу. Пазьней, у лістападзе 1929 г. нацыянал-дэмакратызм яна перафарбавала ў «ідэялогію капіталістычных элементаў, якія аказаваюць усялякае супраціўленьне і пад сьцягам буржуазнага нацыяналізму вядуць барацьбу супраць сацыялістычнага будаўніцтва». Газета разважала, што калі нацыяналізм ёсьць на Украіне, у Татарыі й іншых рэспубліках, то павінен ён быць і ў Беларусі: «Законы і логіка класавай барацьбы агульная і для Беларусі.[4]

Адносіны да «праслойкі інтэлігенцыі» мяняліся даволі рэзка. Ад палітыкі схіленьня ўсіх яе сіл на бок савецкай улады , як зусім яшчэ нядаўна фіксіравалася ў рэзалюцыях партыйных зьездаў і канфэрэнцыяй, стаў назірацца пераход да палітыкі яе дэферэнцыяцыі і разьяднаньня. Барацьба з той яе часткай, якую вызначалі як нацыяналістычную і шавіністычную, а таму класава варожую, прыроўнівалі да барацьбы «з кулаком і нэпманам». Сутнасьць тэрмінаў «нацыянал-дэмакратызм», «нацыяналізм», «нацыяналістычныя элементы», нацыяналістычныя ідэялы» сталі вызначацца як імкненьне да буржуазна-дэмкаратычнай дзяржаўнасьці. Пад імі стала разумецца прававая небясьпека ў культурным будаўніцтве, тэндэнцыя «вырошчаваць нацыянальную форму культуры на шкоду яе зьместу», ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй класавых. Адсюль было рукой падаць да нацыянал-фашызму, які атаясамліваўся з правым ухілам, контррэвалюцыйнай плыньню, якая нібыта ставіла сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізму ў БССР і адрыў яе ад СССР.

Безумоўна, такія вызначэньні патрабавалі канкрэтных адрасатаў. Зь няўмольнай, загадзя абгрунтаванай логікай, яны разьлічаны былі на персаніфікацыю абвінавачваньняў, выяўленьня кактрэтных носьбітаў «нацдэмаўшчыны», «беларускага шавінізму», зьядналых у законспіраваныя антысавецкія арганізацыі. Карныя органы, уваходзячы ў смак палітычнай вакханаліі, рэгулярна інфармуюць цэнтр аб ненадзейнасьці абстаноўкі ў Беларусі. І Масква адэкватна рэагуе на «вострыя сыгналы».

Сакратара ЦК КП(б)Б Я. Б.Гамарніка (на гэтай пасадзе ён не пабыў нават 1 года) і старшыню ДПУ БССР Р .Піляра, якія вагаліся ў правядзеньні «класава вытраманай» лініі да контррэвалюцыйных плыняў, у першай палове 1930 г. адклікаюць у Маскву. Нават без замены, якая будзе знойдзена толькі праз два месяцы. У пачатку студзеня 1930 г. першым сакратаром ЦК КП(б)Б цэнтр адправіць непрыкметнага раней апаратнага функцыянера ЦК УКП(б) К.Гея. Разам зь ім (у Менск ехалі ў адным вагоне) ў Беларусь прыбудзе і новы шэф ДПУ рэспублікі І. Рапапорт. Шэрыя і да прымітыўнасьці абмежаваныя асобы, яны ў адведзеных рамках аказаліся надзвычай стараннымі й ініцыятыўнымі выканаўцамі чужой волі, пасьлядоўнымі праваднікамі «новага курсу».У якасьці падмогі Гею і Рапапорту Масква накіравала цэлую групу ідэялягічных і палітычных работнікаў накшалт Волкава, Гесена, Ленцнера, Рыўліна, Славіна, Югава, якая не прамарудзіла сябе праявіць: прама ў рукі сьледчых ДПУ яна перадавала «ворагаў пралетарскай дыктатуры», «нацдэмаў», нацыянал-ухілістаў», «перараджэнцаў» і г.д. Адной з галоўных сваіх задач яна лічыла разгром «антысавецкай, контррэвалюцыйнай арганізаці», пад кодавай назвай «Саюз вызваленьня Беларусі» (СВБ). Па фантазіі фабрыкантаў гэтай «справы» яна

павінна была стаць апагеем кампаніі па расправе з нацыянал-дэмкратызмам. Каб пасьпяхова узяць гэтую «вяршыню» ДПУ яшчэ раз грунтоўна вывучыла «лістападаўшчыну», свае ранейшыя «праколы» і «непрадбачаньні», каб не паўтарыць старых памылак.

Па «раскрытай» справе СВБ летам-восеньню 1930 г. было арыштавана 108 чалавек, у тым ліку 25 былых членаў партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцянераў. За прыналежнасьць да «контррэвалюцыйнай арганізацыі» пастановай судовай калегіі ДПУ было асуджана 90 чалавек, галоўным чынам работнікаў навукі, культуры, мастацтва шэрагу наркаматаў БССР. Сярод іх акадэмікі Беларускай акадэміі навук М. Гарэцкі, В.Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, прафэсары А. Смоліч , А .Цьвікевіч, дзеячы культуры—М.Гурскі, А. Ляжневіч, П. Мядзёлка, М. Красінскі, А. Сак, пісьменьнікі—М. Грамыка, А. Гурло, У Дубоўка, Я. Пушча, наркомы—А. Баліцкі, Дз. Прышчэпаў і іншыя. [5] Гэта быў першы буйны, загадзя падрыхтаваны і добра сплянаваны удар па беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Для большасьці з артыштаваных мера пакараньня была адносна мяккай—5-10 гадоў высылкі за межы Беларусі, але гэта не мяняла жудаснасьці палітычнага спэктаклю: карная машына ўжо добра набірала абароты.

Знаёмства з матэрыяламі сьледства (а гэта 29 аб'ёмістых тамоў), асабліва з заключным абвінавачваньнем, дазваляе зрабіць выснову: бадай што галоўным крытэрыем для залічэньня ў СВБ была нацыянальная прыналежнасьць, ня гледзячы на тое, што на самой справе былі арыштаваны і беларусы, і рускія, і палякі, і яўрэі, і украінцы. Але сярод асуджаных судовай калегіяй ДПУ аказаліся 89 беларусаў і 1 рускі—мастацтвазнаўца М.М. Шчакаціхін, які дарэчы, у ацэнцы арыштаванага зафіксаваў, што ён таксама беларус. Усе арыштаваныя былі аб'яўлены мацёрымі нацыяналістамі, перараджэнцамі, прыхільнікамі рэстаўрацыі капіталізму, адрыву БССР ад СССР і арыентацыі на буржуазна-памешчыцкую Польшчу.

Прынамсі, у следчых матэрыялах цяжка знайсьці хоць адно якое-небудзь прамое *сьведчаньне ці выказваньне, якія можна* было-б кваліфікаваць як нацыянал-шавіністычныя. Напрыклад, арыштаваны 14 ліпеня 1930 г. А. Цьвікевіч пасьля чатырох дзён знаходжаньня ў камэры і «задушэўных» гутарак са сьледчымі ўласнаручна паказваў: *«Я прызнаю сябе вінаватым у тым, што да апошняга лета быў нацыянал-дэмакратам, уваходзіў у арганізацыю беларускай інтэлігенцыі пад назвай «Суполка вызваленьня Беларусі». Маё нацыяналістычнае «нутро» менавіта мае нацыянальны настрой і імкненьні, штурхалі мяне ў нацыянальны лягер. У гэтым і выявілася мая контррэвалюцыйная сутнасьць: я не ў стане быў адмовіцца ад салідарнасьці з тымі, хто духоўна быў блізкі да мяне, хто зьявіўся прызнаным лідэрам нацыянальна-культурнага руху, як, напрыклад, Янка Купала і Якуб Колас... Ігнатоўскі, Жылуновіч і інш. Ці ў стане я быў у той час назваць гэтую групу контррэвалюцыйнай? Прызнаюся, што такія меркаваньні ніяк не маглі прыйсьці ў маю галаву. Як я мог называць контррэвалюцыянерамі Я. Купалу, Ігнатоўскага—камуніста, наркама асьветы, Я. Коласа, Прышчэпава —нарксма земляробства М.Чарота, Жылуновіча, прызнанных пралетарскіх пісьмень-нікаў і інш».* [6] Але на такія парадаксальныя «дробязі», што відавочна вынікалі з паказаньняў арыштаваных пасьля іх «адпаведнай апрацоўкі» ніхто з аўтараў

палітычнага сьцэнарыя і рэжысёраў самога «працэсу» не зьвяртаў ніякай увагі.

Між іншым, трэба адзначыць, што завадатары «справы СВБ», па першапачатковаму сцэнарыю, колькасьць членаў «выкрытага нацыянал-дэмакратычнага падпольля« вызначалі ў некалькіх соцен чалавек. Галоўную ролю ў ім ДПУ намагалася адвесьці У. Ігнатоўскаму. У сьпіс членаў кіруючага цэнтру СВБ былі таксама ўнесены Я. Купала й Я. Колас. Але ў творцаў «справы» адбылася асечка: адсутнасьць колькі-небудзь абгрунтаваных доказаў у многіх выклікала сумненьні ў належнасьці Ігнатоўскага, Купалы й Коласа да СВБ, што вымушан быў прызнаць на кастрычніцкім 1930 г. пленуме ЦК КП(б)Б сам шэф ДПУ Г. Рапапорт.[7] Шчырыя прыхільнікі нацыянальнай ідэі, яны тым ня менш рашуча і цьвёрда адхілілі ўсе абвінавачваньні у свой бок. Купала больш таго, наадрэз адмовіўся, як аб гэтым паведамляў К. Гей у пісьме сакратару ЦК КПП(Б) П. Постышаву, *«пайсьці насустрач нам у сэнсе хаця-б асуджэньня контррэвалюцыйнай дзейнасьці сваіх сяброў — удзельнікаў і кіраўнікоў «саюзу»*. Дарэчы, у гэтым-жа пісьме Гей сцьвярджаў: *«Янка Купала ўваходзіў у кіруючы цэнтр «Саюза вызваленьня Беларусі», зьяўляўся ідэйным цэнтрам нацдэмаўскай контррэвалюцыі, што знайшлі адлюстраваньне ў яго творчасьці. Побач з творамі цалкам па зьместу савецкімі ў яго маюцца вершы і кулацкага і непасрэдна контррэвалюцыйнага зьместу. Запрошаны для перагавораў у ДПУ, Янка Купала настойліва адмаўляў сваю прыналежнасьць да якой-бы там ні было контррэвалюцыйнай арганізацыі і не выказаў ніякага жаданьня пайсьці насустрач нам у мэтах хоць-бы асуджэньня контррэвалюцыйнай дзейнасьці сваіх сяброў—удзельнікаў і кіраўнікоў СВБ. Мы вырашылі не дамагацца ад Я.Купалы прызнаньня аб удзеле ў «Саюзе вызваленьня Беларусі» і сканцэнтраваць свае сілы на патрабаваньні выступіць з адкрытым асуджэньнем контррэвалюцыйнай дзейнасьці групы беларускіх інтэлігентаў, арыштаваных па справе СВБ»*.[8]

Ня вытрымаўшы той ганьбы і маральнага ціску (нахабства сьледчых у час выклікаў і допытаў у ДПУ), а таксама той тайнай гульні, якая вялася вакол паэта, Я. Купала на зыходзе лістапада 1930 г. зрабіў спробу на самагубства [9]. Той-жа Гей вызначыў гэты ўчынак песьняра *«як пратэст супраць нашай палітыкі барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам»*. Непакоячыся аб гонары мундзіра свайго ведамства, кіраўніцтва ДПУ прымусіла параненага Я. Купалу падпісаць падрыхтаваны чэкістамі «пакаянны»




*Я. Ціхановіч*

ліст, які 10 сьнежня 1930 г. быў надрукаваны ў рэспубліканскіх пэрыядычных выданьнях. Зьяўляючыся натурай спакойнай, роўнай, сьціплай, паэт у той-жа час быў глыбока ранімы, надзвычай чульлівы, сарамлівы і кволы (Г. Гарэцкі). У тыя нялёгкія для яго дні ён павёў размову пра мудрага гісторыка, які прыйдзе і разбярэцца ва ўсім пасапраўднаму, раскажа праўду пра час, людзей і падзеі.

*Прыдзе новы мужны гісторык,*
*А ён прыдзе—ужо ён ідзе—*
*І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак,*
*І да зорак аб нашых прасторах,*
*Аб падзеях, людзях павядзе...*

Брудная справа з пакаянным» лістом Я.Купалы фізычна і маральна ўзрушыла У. Ігнатоўскага, узмацьніла яго адмоўную рэакцыю да арганізатараў і натхніцеляў «справы СВБ». Ён быў адным зь першых, хто хутка зразумеў, што сапраўды яго чакае, хто здолеў пранікнуць у мімікрыю таталітарнай сыстэмы, у таямніцы сутнасьці палітычнай гульні з нацыянальнай інтэлігенцыяй і наканаванасьць яе трагічнага лёсу. Вярнуўшыся пасьля чарговага допыту ў ДПУ, які адбыўся 3 лютага 1931 г., на наступны дзень У. Ігнатоўскі стрэлам з браунінга абарваў сваё жыцьцё.

Напалоханыя замахам на сваё жыцьцё Я. Купалы і самагубствам Ігнатоўскага карныя ворганы на некаторы час накалькі сьцішылі кампанію выкрыцьця нацдэмаў, часткова зьнялі і часткова зьмянілі абвінавачаньні ў яго адрас: у прынятай 25 сакавіка 1931 г. прэзыдыумам ЦКК УКП(б) «Рэзалюцыі па справе беларускіх нацыянал-дэмакратаў» ацэнка Ігнатоўскаму ў параўнаньні з папярэдняй (групавая барацьба) была заменена на іншую. Ён упамінаецца толькі ў ліку тых дзеячоў, якія нібыта служылі прыкрыцьцём «контррэвалюцыйнай буржуазна-нацыяналістычнай інтэлігенцыі» і канцэнтравалі ў сваіх руках частку работы па нацыянальна-культурнаму будаўніцтву (выдавецкая справа, Акадэмія навук, перападрыхтоўка настаўнікаў і некаторыя іншыя»)[10] Характэрна, што змягчальныя ацэнкі знаходзіліся ў сакрэтных дакументах і прызначаліся толькі для вышэйшага партыйнага кола: у кіруючых эшалонах улады яшчэ не да канца былі ўпэўнены ў сваёй «праваце», у падтрымцы нават тых, на каго абапіраліся на месцах.

Набіраўшы моц таталітарны рэжым яшчэ страшыўся усплеску незадаволенасьці, супраціўленьня мас. Таму беларусафобы так і не рызыкнулі на адкрыты працэс супраць СВБ, хоць нешта падобнае мела месца на Украіне: з 9 па 17 красавіка 1930 г. у Харкаве адбыўся судовы працэс над 25 дзеячамі нацыянальнай культуры з так званага «Саюза вызваленьня Украіны». Відавочна пэўную ролю ў лёсе СВБ адыграла і тое, што на папярэднім сьледстве поўнасьцю вінаватымі сябе прызналі толькі 25 чалавек. Звыш 40 арыштаваных цьвёрда заявілі: *«Вінаватымі сябе ні ў чым не прызнаём. У СВБ ніколі не былі і аб яго існаваньні даведаліся толькі ад сьледчых ДПУ».* Каля 20 чалавек «прызналіся» часткова, што абазначала пэўнае прызнаньне сваіх памылак і недахопаў у навуковай, культурнай и грамадзка-палітычнай дзейнасьці, якія ніяк не падпадалі пад артыкулы крымінальнага кодэкса. Арганізатары справы СВБ палохаліся і таго ,каб на адкрытым судовым працэсе не адмовіліся і тыя, хто прызнаўся пад час сьледства, бо добра ведалі, якімі метадамі і сродкамі былі дабыты тыя прызнаньні. Таму было вырашана матэрыялы СВБ накіраваць у судовую калегію ДПУ для

вынясеньня несудовага прыгавору.

Пасьля васьмі месяцаў сьледства 18 сакавіка 1931 г. судовая калегія ДПУ вынесла рашэньне: 4 чалавека—камуністы, адказныя дзяржаўныя работнікі (А. Адамовіч, А. Баліцкі, П. Ільючонак, Дз. Прышчэпаў) атрымалі па 10 гадоў папраўча-працоўных канцлягероў. 10 красавіка быў вынесены несудовы прыгавор астатнім 86 беларускім інтэлігентам у першым пакаленьні. 8 чалавек (М. Адзярыха, Я. Бядрыцкі, А. Дарашэвіч, П. Жаўрыд, Ф.Ждановіч, М. Каспяровіч, А. Сак, І. Цьвікевіч) атрымалі па 5 гадоў канцлягераў, П. Біндзюк —3 гады Гулага. Усе астатнія былі высланы на 5 гадоў у розныя аддалённыя раёны СССР. У працэсе сьледства справу на 18 чалавек давялося спыніць: ва ўнутраную турму ДПУ «амэрыканку» яны вернуцца некалькі пазьней, і іх напаткае яшчэ больш трагічны лёс.

Сфабрыкаваная ДПУ «Справа СВБ»— лішні доказ таго, што менавіта сумленныя і здольныя на самастойную думку лепшыя прадстаўнікі беларускай нацыі ўяўлялі для прыхільнікаў таталітарызму найбольшую небясьпеку. У гэтым быў свой дакладны разьлік:распачаць рэпрэсіі зь першых, найбольш разумных і аўтарытэтных у структурах улады, асьветы, культуры. А гэта азначала, што з авансцэны трэба было убіраць (калі не фізычна, дык маральна) усіх тых, хто мог думаць, разумець і аналізаваць сутнасьць сталінскага «крутога пералому», хто быў здольны на супраціўленьне і таму ўяўляў найвялікшую небясьпеку. Разам з тым прасьледвалася мэта запалохаць асноўную масу нацыі, сканструяваць мадэль паводзін кожнай асобы, узор для пераймањня. Меркавалася так, што калі ўжо з прызнанымі аўтарытэтамі, вядомымі дзеячамі і навукоўцамі так абышліся, то што чакаць людзям простым, радавым працаўнікам? І калі ўжо яны ня вытрымалі, каюцца, узводзяць паклёп на сябе і блізкіх сяброў, то людзям маленькім трэба весьці сябе цішэй вады і ніжэй травы, маўчком маліцца, каб пранесла. У такіх абставінах у многіх чалавечае сумленьне, узьнеслыя імкненьні, высокія ідэялы і мэты ўступалі месца маўклівасьці, страху, прыстасаванасьці, пакорлівасьці. Паступова ў рэспубліцы складаваліся тыпы пляскаючых у далоні канфармістаў— усхваляваных і ўшаноўваючых перамогу сацыялізму мас. У такіх абставінах даносы і самаагаворы станавіліся ня проста бяшкоднымі і зручнымі зьявамі, а нават грамадзянскімі учынкамі, нормай паводзін: сцьвярдажючая сыстэма стварала і сабе падобную асобу грамадства.

Па заканчэньню тэрміну высылкі ці канцлягераў амаль усім асуджаным у справе СВБ у 1937 г. тэрміны былі альбо падоўжаны на 2-3 гады, альбо асуджаны паўторна да вышэйшай меры пакараньня. Некаторых «нацдэмаў» «караючы меч пралетарскай дыктатуры» напаткаў другі ці трэці раз у 1949-1952 гг. на толькі той падставе, што раней яны былі асуджаныя. Усе тыя, хто быў ператвораны ў «лягерную пыль»,альбо перажыў лягернае ліхалецьце, у 1956-1960 гг. і 1988 гг. рэабілітаваны.

Адначасова з СВБ у 1930 г. ДПУ «раскрыла» й іншыя «контррэвалюцыйныя, шкодніцкія й дыверсыйна-шпіёнскія арганізацыі». У прыватнасьці быў «ускрыты» беларускі філіял «працоўнай сялянскай партыі» (ПСУ). Па гэтай справе ў травені 1931 г. на розныя тэрміны зьняволеньня і высылкі былі асуджаны 59 чалавек. У тым-жа годзе «выявілі» яшчэ адно «контрэвалюцыйнае гняздо»— беларускі філіял «Прампартыі: «згодна пастановы судовай калегіі ДПУ Беларусі ад 12 верасьня 1931 году рэпрэсіям было падвергнута 30 чалавек з так званага «Саюзнага

падыйшлі разам з войскам Сапега і Лісоўскі. Шмат беларусаў загінула пад сьценамі горада-крэпасьці, які выстаяў 16-месячную асаду Сапегаўскага войска...

Каля Сяргеўскага пасаду цягнік прыпыніўся на пэўны час. Спадарожнікі па дарозе выйшлі на пэрон, Максім застаўся сядзець у вагоне. Праз заледзянелыя сьнежныя карункі вакенца ён глядзеў на людзей, што хадзілі на вакзале. Раптам ён убачыў (а можа гэта толькі здалося яму?) стройную фігурку Ані. Не, ён не мог памыліцца, ейны кажушок, які прыгожа аблягаў яе статную фігурку, белая пуховая хустка. Быццам-бы маланка ўдарыла ў галаву, Максім падхапіўся, схапіў капялюш і як сядзеў у легкім касьцюме, так і выбег на пэрон.

Дзяўчыны ўжо не было, але гэта не прыпыніла Максіма. Ён бяжаў па пэрону, і крычаў наколькі хапала моцы «Аня!», «Аня!». На ягоны воклік азіраліся маладыя дзяўчаты, але сярод іх не было той, якая была так падобна на яго цемнавокую пані. І толькі калі моцны прыступ кашлю ускалыхнуў ягоныя грудзі, Маскім апамятаваў. З нейкім цяжкім пачуцьцём пайшоў ён назад у вагон. Сэрца шалёна білася ад бегу й адчуваньня загубленага шчасьця. Увесь астатні шлях Максім зь нейкай абыякавасьцю глядзеў у вакно й ужо ня думаў аб сустрэчы зь Пічэтам.

Нарэшце, белымі саборамі паказалася Масква. Яраслаўскі вакзал. Сотні людзей. Максім адразу ўцягнуўся ў віхар бурлівага сталічнага руху. Паддаючыся пачуцьцю нечакана нахлынуўшай свабоды, юнак накіраваўся на адрас Пічэты.

Пічэта жыў на другім паверсе вялікага трохпавярховага будынку. Максім з незразумелай яму цяжкасьцю падняўся па лесьвіцы і пазваніў у дзьверы. На ягоны званок выйшаў высокі мужчына, гадоў на 13 старэйшы за Максіма. На пытаньне: «Ці магу я пагаварыць з Уладзімерам Пічэтам», той неяк суха адказаў: « Я Пічэта. Чым магу быць карысным, малады чалавек?»

Максім прадставіўся як студэнт Яраслаўскага Дзямідаўскага ліцэю і аўтар зборніка «Вянок». Расказаў пра сваё захапленьне беларусістыкай, сваіх сувязях з рэдакцыяй газэты «Наша ніва». Пазьней падзяліўся сумненьнямі, сваімі думкамі аб вывучэньні роднай літаратуры. Пічэта слухаў быццам-бы ўважліва, але, як паказалася Максіму, было ў ягоным поглядзе больш ветлівай цікавасьці, чым сапраўднага жывога інтарэса. Да таго-ж з суседняга пакою даносіўся моцны, клакочушчы кашаль нейкай асобы. Таму, падумаўшы, што ягоны прыход у нечым перашкаджае, Максім пасьпяшыў адкланяцца.

—Заходзьце яшчэ калі-небудзь, — сказаў больш цёпла на разьвітаньне Уладзімер Пічэта.—Вельмі было цікава пазнаёміцца з Вамі. Вашыя гістарычныя назіраньні вельмі слушныя, і я думаю, што час пацьвердзіць іх вартасьць і правату.

Гэтыя словы працягвалі гучаць у галаве Максіма, калі ён выйшаў на вуліцу. Можа ён дапусьціў памылку, калі так рана разьвітаўся з гісторыкам? Юнак ужо хацеў павярнуць назад, зноў зайсці да вучонага і запытацца аб тым, што не пасьпеў запытаць. Але прыродная сьціпласьць і нейкае ўнутранае пачуцьцё сарамлівасьці казалі яму адкласьці сустрэчу на насутпны раз.

Ад Пічэты Максім накіраваўся да брата. Лёва быў здаровы, як заўсёды ўвесь у клопатах. Не пісаў доўга таму, што ня меў часу. Лёва зьбіраўся на фронт і перад ад'ездам выкрашаў тысячы важных і другарадных справаў. Вось і зараз, пагутарыўшы нейкія паўгадзіны з братам, той мусіў бяжаць на спэцыяльныя вайсковыя курсы.

Максім сядзеў у невялікім Лёвіным пакоі, пераглядаў рукапіс свайго «Белорусского возрождения».Ён хацеў яшчэ раз перачытаць артыкул перад тым, як аддаць яго Някрасаву, у выдавецтве якога ўжо выйшлі ягоныя брашуры «Червонная Русь», «Угорская Русь», «Братья-чехі». «Белорусское возрождение» займаў у творчасьці М. Багдановіча прыкметнае месца, бо як і творы «За сто лет», «Новы период в развитии белорусской литературы», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XI сталецця» артыкул пісаўся, як частка падручніка па гісторыі беларускай літаратуры. Максім доўга працаваў над гэтым творам. Тут ён упершыню паказаў асноўныя этапы разьвіцця беларускай літаратуры, узьлёты нашай культуры і тыя моманты, калі яе крокі былі непрыкметнымі і малымі. Доўга не атрымоўвалася ў яго характарыстыка новага пэрыяду беларускай літаратуры, які пачаўся, на думку аўтара, з пераломнага 1905 г. У гэтай частцы нарыса Максім даў даволі падрабязную характарыстыку розных беларускіх выданьняў, ацэнку творчасці паэтаў і белетрыстаў-празаікаў Бацькаўшчыны. Усе гэтыя шматлікія факты ён мусіў пераасэнсаваць, але ня толькі як летапісец.. Ён хацеў, спалучаючы лагічны й эмацыянальна-вобразны пачатак, распрацаваць аспэкт фарміравання беларускай літаратуры. Складанасьць была ячшэ ў тым, што артыкул, замоўлены ўкраінскім часопісам «Украинская жизнь», мусіў быць напісаны вельмі эмацыянальна, каб чытач меў цярпеньне поўнасьцю прачытаць яго.

Перачытваючы матэрыял, Максім выносіў на чысты ліст паперы зноскі і заўвагі. Нечакана ў дзьверы нехта пагрукаў. Два студэнты ўвайшлі ў пакой і зьдзіўлена паглядзелі на Максіма. Адзін зь іх быў шырокаплечы, каржакаваты, з прыгожай чорнай кучаравай шавялюрай і карымі вачыма. Другі —хударлявы, шэравочы меў нейкі хваравітае адценьне твару.

—Маё імя Паўло, — сказаў, прывітаўшыся, чарнявы,—а майго сябра клічуць Андрэй. Мы аднакурснікі Лёвы. А кім будзеце Вы?

—Мяне завуць Максім, я брат вашага сябры,—неяк без асобага энтузіязму адказаў юнак.—Лёва абяцаў вярнуцца хутка. Так што вы можаце пачакаць яго.

Паўло скінуў шынэль і сеў каля стала, за якім працаваў Максім. Андрэй, моўчкі апусьціўся на ложак.

Пакуль Маскім заварываў гарбату на кухні, Паўла праглядзеў артыкул.

—Я я ўжо чытаў ваш артыкул,— адразу сказаўён, калі Максім вярнуўся.

—Дзе?— зьдзіўлена спытаў Максім.

—У рэдактарскім адбітку часопіса «Украинская жизнь», у першым нумары за 1915 год.

—Няўжо мой артыкул пастаўлены ў першы нумар?—зьдзівіўся Максім.—Я ня думаў, што рэдакцыя так хутка надрукуе яго.

—Добры артыкул,— працягваў Паўло.—І ведаеце, што я вам параю: аддайце яго ў «Вісник Вызваленьня Украіны».

—Першы раз я чую пра «Вісник», —адказаў Максім. Ці ня можаце Вы крышку расказаць пра гэтае выданьне.

—Чаму не,— з радасьцю згадзіўся Паўло.—«Вісник» выдаецца «Союзом Визволення Україні», палітычнай арганізацыяй эмігрантаў з Расейскай імпэрыі ў Аўстра-Угоршчыне і Нямеччыне з 1914 году. Саюз рэпрэзэнтуе інтарэсы ўсіх украінцаў пад расейскім панаваньнем. Мы намагаемся, выкарыстоўваючы вайну Аўстра-Угоршчыны і Нямеччыны супроць Расеі, здабыць самастойнасць Украіны. Украіна мусіць быць канстытуцыйнай манархіяй з дэма-

кратычым ладам.

—А хто ўваходзіць у саюз? — пацікавіўся Максім. Сярод сваіх знаёмых ён меў некалькі сяброў украінцаў, і яму было вельмі цікава даведацца, ці ўваходзяць яны ў саюз.

—Большасць сябраў «Союза Визволення Украïны» (СВУ) ёсьць украінцы, якія апынуліся на аўстрыйскай тэрыторыі, ратуючыся ад рэпрэсыяў сталыпінскай рэакцыі. Карацей кажучы, ўкраінская інтэлігенцыя. Можа вы чулі імёны О.Скорапіса—Йалтухоўскага, В.Дарашевіча, А.Жука, А. Меленеўскага?

—Здаецца, імя Дарашэвіча мне знаёмае. Быццам бы, я сустракаў яго артыкулы ва украінскай прэсе.

—О так, пан Дарашэнка добры літаратар. Між іншым, пад ягонай рэдакцыяй і пачаў выходзіць з жніўня 1914 году «Вісник Союзу Визволення Україні», а таскама тыднёвікі «Ukrainische Nachrichten», «Revue Ukrainienne».

Рэдакцыя, як і Саюз, знаходзяцца ў Вене, але я магу даць вам адрас і вы пашлёце свой артыкул. Я думаў, што Дарашэнка надрукуе яго, бо ён адпавядае патрабаваньням і нацыянальна-вызваленчым ідэям Саюзу, які пры дапамозе украінцаў — культурных дзеячоў з Галіччыны і Буковіны і з дазволу нямецкіх і аўстрыйска-угорскіх войскаў наладзіў шырокую дапамогу па культурнаму выхаванню сярод палонных украінцаў з расейскай арміі ў Аўстрыіі, Угоршчыне, Нямеччыне.Захадамі СВУ былі арганізаваны школы, бібліятэкі, чытальні, хары, аркестры, тэатры, курсы украінскай гісторыі і літаратуры, каапераціі, паліт-эканоміі, нямецкай мовы. Для асьветніцкай працы, якая праводзілася сярод палонных нам патрэбны артыкулы, якія паказваюць працэс нацыянальнага адраджэньня.

—Ты думаеш, што мая праца зацікавіць арганізацыю «Союза Визволення Украïні»? —запытаў Максім.

—А чаму не. Арганізацыю, якая дбае пра незалежнасць свайго краю, ня могуць ні цікавіць праблемы нацыянальнага руху на суседніх беларускіх землях. Твой нарыс напісаны гістарычна-дакладна, публіцыстычна ярка. Ён дае цікавы матэрыял для роздуму.

*(Нарыс «Білоруське відродженнэ» быў надрукаваны ў «Віснику», які выдаваўся «Союзом Визвалення України» пад час першай сусветнай вайны 1914-1918. Дзейнасьцю СВУ кіраваў прэзыдыум у складзе: О.Скорапіс—Йалтухоўскі, В.Дарашевіч, А.Жук, А. Меленеўскі. Ім дапамагалі дзеячы галіцкіх і букавінскіх аддзелаў (С. і Р. Смаль-Стоцкі, В.Сімовіч, М.Возняк, Б.Лепкій, М.Лозінскі, Л.Ганкевіч, і Крып'якевіч, С.Рудніцкі і інш.*


ВИДАННЄ СОЮЗА ВИЗВОЛЕННЯ УКРАЇНИ

М. БОГДАНОВИЧ.

БІЛОРУСЬКЕ ВІДРОДЖЕННЄ.

ВІДЕНЬ, 1916.

НАКЛАДОМ СОЮЗА ВИЗВОЛЕННЯ УКРАЇНИ.

*Штаб СВУ спачатку быў ва Львове, а з жніўня 1914 г. ў Вене. У Вене і пачаўся выходзіць пад рэдацыяй В.Дарашэнкі, А.Жука, В.Возняка «Вісник Союзу Визволення України»*

*Рэдакцыі «Вісника», відаць, былі вядомы артыкулы М. Багдановіча «Червоная Русь», «Угорская Русь», «Братья-чехи», «Образы Галиции в художественной литературе». Таму, можна прадбачыць, што рэдакцыя «Весника» праз сваіх прадстаўнікоў у часопісе «Украинская жизнь», зь якімі Максім Багдановіч падтрымліваў цесную сувязь, замовіла ў яго агляд украінскай паэзіі. Чаму ён не пабачыў сьвет, пакуль што невядома. Але лёс нарыса «Бікоруське відродженнэ» быў больш шчаслівы.*

*Нарыс «Білоруське відродженнэ» быў надрукаваны асобнай кніжкай не раней сакавіка-красавіка 1916 года, бо іншыя два матэрыялы, якія таксама друкуюцца ў кнізе і датычацца «до праці д. М.Багдановіча про національно-культурнае відродженне Білорусінів» маюць канкрэтную дату— люты 1916 г.*

*Верагодна, выдавецтва СВУ мела багдановічаўскі арыгінал, бо інакш, перадрукоўваючы нарыс з часопіса «Украинская жизнь» або з брашуры, якая выйшла ў Маскве, выдавецтве К.Някрасава, яна абавязкова зьмясьціла і Postscriptum, які апавядае аб падзеях, што адбыліся пасьля ліпеня 1914 г. (часу, калі быў напісаны нарыс), а таксама багдановічаўскую заўвагу, якая зроблена ў выглядзе зноскі. Пры публікацыі артыкула, рэдакцыя «Вісника» робіць дадатковыя зноскі, якая адсутнічаюць ў тэксце нарыса, надрукаванага ў часопісе «Украинская жизнь».)*

Падумаўшы, Паўло дадаў:

— Акрамя таго, для кіраўнікоў украінскага руху важна, што ты ўпамянуў у сваёй працы імя Палуяна, які шмат зрабіў для нацыянальна-адраджэнскага друку Украіны.

—Сяргей Палуян шмат зрабіў і для нацыянальнага-адраджэньня Беларусі. Я таксама абавязаны яму многім. Быў нейкі час, калі мае творы не друкаваліся у нашай газеце «Наша ніва», і Сяргей пісаў мне лісты, у якіх заахвочваў працягваць пісаць свае вершы.

—Ты асабіста ведаў Палуяна?— зь дзіўленьнем запытаў Паўло.

—Нажаль, не. Мы пазнаёміліся толькі дзякуючы перапісцы. Сяргей быў на год старэйшы за мяне. І я яму многім удзячны.

Максім хацеў яшчэ сказаць, што ён разумее, чаму Палуян так заахвочваў яго пісаць. Ён ведзь таксама быў па-сутнасьці адзінокім. Але прыход Лёвы абарваў іхнюю папярэднюю размову. Лёвіны сябры адразу забыліся пра адраджэньне, палітыку, нацыянальны рух і ператварыліся ў вясёлых студэнтаў, якія толькі што здалі экзамены. Іх бяспечны настрой перайшоў да Максіма, і больш у гэты вечар ён за пісьмовы не прысеў. Выдаўцу Канстантыну Някрасаву ён перадаў свой артыкул на наступны дзень.

—Невялікія зьмены я можа прыйшлю пазьней,— папярэдзіў ён.

—Якія зьмены?— зьдзіўлена запытаўся Някрасаў.—Артыкул цудоўны, будзем друкаваць.

Вечарам Максім ад'язджаў у Яраслаўль. Калі цягнік без прыпынку праляцеў Сяргеўскі пасад, дзе ён бачыў Аню, у юнака нешта зьціснула ў грудзі.

# З эміґранцкіх выданьняў



## Профэсар Мітрахван Даўнар-Запольскі

Аляксандра Саковіч
(Іна Кахаоўская)

Перада мною не лягкое заданьне: азнаёміць чытароў із навукова-адраджэнскай дзеяльнасьцю нашага славутага родзіча, проф. Мітрахвана Даўнара-Запольскага. Не лягкое гэта заданьне, бо тут, на эміґрацыі, мы недаволі маем матар'ялаў, каб усебакова асьвятліць жыцьцёвы шлях а дзеяльнасьць ґэтага вялікага навуковага-гісторыка. А тыя, там, на бацькаўшчыне, за зялезнай заслонаю, што добра знаюць жыцьцё Даўнара-Запольскага, ня сьмеюць успомнець яго. Маўчыць беларускі друк аб сваіх лепшых сынох...

М. Даўнар-Запольскі нарадзіўся ў 1867 годзе у м. Мозыру на Палесьсю; ён вышаў з гушчаў беларускага народу. На гісторычнай ніве беларускае адраджэнскае дзеяльнасьці імя М. Даўнара-Запольскага спатыкаем мы ўжо ў 1887 годзе.

У 1887 годзе група маладых беларускіх дзеячоў задзіночылася ў Менску каля рэдакцыі газэты „Минскій Листок". Прыклад нацыянальнага адраджэньня цэлага сьцягу славянскіх народаў (XVIII — XIX стг.), як Чэхія, Баўгарыя, Сэрбія, Харватыя і суседняя Ўкраіна, выклікаў у іх жаданьне таксама аддаць свае здоль-

насьці й сілы на дабро беларускага народу. З маладым запалам і энэрґіяй імкнуліся яны ў друку ўсебакова асьвятліць жыцьцё роднага краю. Іхнія працы прысьвячаліся беларускай гісторыі, этноґрафіі, мове, старой пісьменнасьці, літаратуры. Шмат якія цяжкасьці перашкаджалі ім. Падаваныя да друку артыкулы праходзілі жорсткую цэнзуру. Гэтак, у 1928 г., проф. Даўнар-Запольскі пераслаў у Менск некаторыя архіўныя матар'ялы, што датыкаліся выданьня „Северо-Западного Календаря" — дадатак да „Минского Листка". — З гэных матар'ялаў мы даведаваемся, што творы, прызначаныя для „Северо-Западного Календаря" і напісаныя беларускай моваю, былі выкінутыя маскоўскай цэнзураю. Быў заборонены і „Гапон" Дуніна-Марцінкевіча. Пасьлей, па даўгім стараньню і „дыплематычных выясьненьнях" „Гапон" быў дапушчаны да друку, але бяз жыцьцяпісу аўтара, напісанага Д.-Запольскім. Адылі нішто ня спыняла адданую беларускай ідэі моладзеж: ні цяганіна, ні клопаты, ні небясьпечнасьць. Высокую ацэну іхняй працы даець акад. Аляксандра Цьвікевіч у вадным із сваіх артыкулаў: „І калі ў 1887 годзе ў Менску, каля рэдакцыі „Минского Листка" сабраліся маладыя энтузіястыя — Ян Няслухоўскі, Ал. Слупскі і М. Даўнар-Запольскі — і афіцыяльна, пасьля цэнзурнай цяганіны, прыступілі да выданьня „Северо-Западного Календаря" з яўным беларускім ухілам, зрабілася ясным, што ня гледзячы на лютую рэакцыю і слабыя сілы, справа адраджэньня краіны вышла з падпольля на шырокі сьвет"*).

Тагачасныя працы маладога талентнага Даўнара-Запольскага напісаны надзвычайна жыва й абразна. Ужо гэтыя працы адлюстроўваюць высокія здольнасьці аўтара, як гісторычнага дасьледаваньніка й публіцыстага. Тэматыка дасьледаваньняў характарызуе іхняе мэтапрастаньне: „Беларуская мінуласьць", „Пранціш Скарына", „Гапон, апавяданьне ў вершах у беларускай мове В. Дуніна-Марцінкевіча (да гісторыі беларускае пісьменнасьці)" і г. д. Адно з гэтых гісторычных дасьледаваньняў „Беларуская мінуласьць" вельмі цікавае нам, бо ў ім асабліва зырка выяўляюцца імкненьні й ідэялы маладога навукоўца. Я ўважаю патрэбным драбязна задзержыцца на зьмесьце гэтага дасьледаваньня.

---

*) „Западно-Русская" школа і яе прадстаўнікі" (Полымя, 1927, № 7), бач. 137.

За назовам „Беларуская мінуласьць” у дужках дададзена „дзеля артыкулаў А. Пыпіна, зьмешчаных у „Вестнике Европы” летась”. Трэба падчыркнуць, што ў гэтай працы, якая займае 28 бачынаў, ацэне артыкулаў Пыпінавых прысьвячана дзьве няпоўныя бачыны. Ясна, што Пыпін быў адно неабходнай шырмаю, за якой аўтар імкнуўся дасягнуць свае мэты. Ён шырокім палатном разгарнуў перад чытаром гісторычныя дачыненьні Беларусі да яе суседзяў, гады яе красаваньня, гады яе заняпаду. У кажным радку гэтага дасьледаваньня чуецца любоў аўтара да свайго краю, яго жаданьне прынесьці агонь адраджэньня роднаму народу, наказаць, што надышла пара прачхнуцца да сьветлае самастойнае будучыні, на якую Беларусь мае гісторычнае права. Гіронія чуецца ў характарыстыццы маскоўскіх дэспатаў, за межамі „высокай улады” якіх ўсе былі „бусурманамі”: і Палякі, і Татары, і Туркі, і Украінцы, і Беларусы. Аўтар падчыркуе, што ня шмат больш ведалі расійскія палітыкі й гісторыкі аб Беларусі і па прылучэньню яе да Расіі: „У 1835 годзе ведамы гісторык Устралаў паведаміў обэр-прокурора сыноду Пратасава і міністру асьветы Уварава, што Літоўскае Княства таксама Русь. Пратасаў, якому гэта было важна „дзеля палітычных меркаваньняў” і Увараў прышлі ад гэтага „у захапленьне” (выказуючы яго францускай моваю); яны пастанавілі якга паведаміць пра гэта цара. Такімі абмежанымі былі ўяўленьні расійскіх палітыкаў аб краю, які яны кіравалі траха паўстагодзьдзя”*).

Выснавы зь „Беларускае мінуласьці”, даныя аўтарам у канцы начырку — гэта нацыянальнае крэда маладога Д.-З., вернасьць ідэялам якога, ён захаваў пераз усё жыцьцё. Скарочана яны гэткія:

„У паданых начырках мы дакрануліся да галоўных мамэнтаў гісторычнае долі Беларускага народу. Ужо з гэтых кароткіх начыркаў можна, як здаецца, зрабіць выснаў, што Беларускае плямя, мела сваю гісторыю, розную ад суседніх сваіх яму плямён, свае гісторычныя традыцыйныя асновы, што гэтыя поды-асновы яно калісьці ўпорыста бараніла. Апрача таго, Беларускі народ мае этнографічныя асаблівасьці ад суседніх народаў, розьніцца ад іх складам свайго развою, разуменьняў і нахінаў. У вуснах ягоных яшчэ захавалася безьліч песьняў, што дыхаюць роднай, запаветнай старавечнасьцяй і малююць бытавыя абставіны жыцьця; у іх пяець Беларус аб сваёй радасьці й гору; у іх чуецца далёкая песь-

*) Исследования и статьи, Кіеў 1909, т. 1, бач. 333.

ня паганскіх часоў, цяпер ужо не зразумелая цяперашнім пакаленьням, прашчуры якіх пяялі іх некалі ў цяністых гушчарох перад сваймі багамі. Шмат ёсьць песьняў, у якіх Беларус успамінае сваё мінулае няшчасьце: гэта хапаючая за душу песьня народу-раба, стогнучага сярод перасьледаваньняў, пад ціскам чужаземнай няволі".

„Наагул, нашае народнае творства складае наша вялікае багацьце, якім Беларусы могуць ганарыцца, якое павінны паддзержаваць і захоўваць. Наапошку, ёсьць яшчэ дастамэнт у Беларусаў — свая мова, каторая розьніцца ад моваў суседніх плямён важнымі лінґвістычнымі асаблівасьцямі. Мова гэта мае сваю гісторыю: адзнакі яе мы знаходзім у найстаравячнейшыя часы.

„Гэтай моваю напісаны цэлы сьцяг лістоў-докумэнтаў, умоваў, літаратурных помнікаў і нават ведамы Літоўскі Статут; яна была гаспадарстваваў моваю на ўсёй вялікай прасторы Літвы й Беларусі. На ёй захавалася нашая багатая сераднявечная літаратура; наапошку, як літаратурная мова яна ведама яшчэ ў палове цяперашняга стагодзьдзя, калі зьявілася ня мала напісаных гэтаю моваю бэлетрыстычных твораў".

„...Група людзёў, маючая свае традыцыйныя асновы, свае этноґрафічныя асаблівасьці й мову, такая група людзёў складае ўжо асобную народнасьць, плямя, адным чынам, народны арганізм... Асабліва важная тут мова: пакуль у народзе жывець ягоная мова, жыў і сам народ; згубіўшы яе, плямя траце сваю народную сьведамасьць і зьнікае ў масе сілы, што яго праглынула... Але затое і наадварот: народ пазбаўлены палітычнага жыцьця, уціснуты нутраным ціскам, іншы раз на цэлыя стагодзьдзі зыходзячы з палітычнае арэны і як бы заміраючы, такі народ, калі ён ня згубіў свае мовы, этноґрафічных асаблівасьцяў і інш., ізноў высоўваецца на арэну"...

„Ня так даўно, шмат хто ня памятаваў аб быцьцю заходне-славянскіх і паўднёва-славянскіх плямён... Імя некалі вялікай Чэхіі тады траха зыходзіла з мапы Эўропы, большыня Чэхаў мяшчанаў а шляхты згубіла мову, і адзнакі чэскае нацыянальнасьці жылі яшчэ дзе-ня-дзе на сяле... Прайшло колькі дзесяткоў год — Чэхія й Чэхі перамяніліся: аб іх загаварылі эўропская навука й друк, Чэх із гонарам узьняў галаву; ён мае цяпер багатую літаратуру, мова іх гучыць із вышыні профэсарскае катэдры, Чэхі шмат зрабілі ў галіне навукі, яны здабылі палітычныя правы і дамагаюцца

аўтаноміі, шмат анямечаных ужо Чэхаў варочаецца на ўлоньне свайго народу. Адбылося такім парадкам адраджэньне чэскага народу"...

„...У нас узьнікае вельмі важнае пытаньне: што прадстаўляе сабою ў істоце адраджэньне нацыянальнасьці — дадатнае ёй дабро, ці зло? Пытаньне гэта вельмі важнае, бо разьвязаньням яго высьняецца, ці трэба народу імкнуцца да адраджэньня ці не... Узварушэньне ў жыцьцю народу заўсёды карыснае, бо яно выклікае ўзмоцненую дзеяльнасьць грамадзкую, выклікае новыя сілы"...

„Застаецца толькі пажадаць, каб у найбарджэйшым часе была дасьледавана мінуласьць і сучаснасьць Беларусі, каб сучасьнікі, знаючы яе, маглі пачаць сваю культурную працу на карысьць свайго плямені, як гэта ёсьць у іншых славянскіх народаў, што раней ад нас адрадзіліся"*).

Адважна было з боку Даўнара-Запольскага заклікаць да адраджэньня, калі навокал яго ў беларускім краю панавала рэакцыя. Расійская Імпэрыя, лад якой на працягу стагодзьдзяў быў прасякнуты ідэяй цэнтралізацыі і дэспотызму, ані ня была зацікаўлена ў вадраджэньню беларускага народу. Палітыка русыфікацыі, пачатая Кацярынай II-ой, няспынна працягавалася далей у 19 стг... Беларусу, што адзержыў сярэднюю або высокую асьвету, ня было магчыма дастаць адміністрацыйную або наагул інтэліґенцкую пасаду ў родным краю. На гэтыя пасады слаліся Расійцы. Па зачыненьню Віленскага Ўнівэрсытэту ў 1832 годзе край ня меў высокай навуковай установы. Беларускія архівы пераховаваліся ў вархівах Масквы, Пецярбурга, Кіева.

Каб адзержыць вышшую асьвету, каб вывучыць гісторычную мінуласьць свайго краю, Д.-З. пакідае Менск. Ён студыюе на Кіеўскім унівэрсытэце. За працу „Очерки по истории кривичской и дреговичской земель" яму была дадзена залатая мэдаль. У 1894 годзе ён канчае ўнівэрсытэт. У гады студыяў ён шмат часу аддаець на дасьледаваньне гісторыі й этноґрафіі Беларусі. У „Этнографическом Обозрении" за 1890-97 г. г. надрукаваны цэлы сьцяг гісторычных дасьледаваньняў і начыркаў: „Чараўніцтва ў Паўночна-Заходнім краю ў XVII і XVIII стг"., „Беларускае вясельле ў культурна-рэліґійных перажытках", „Начыркі радзімнага й звычаёвага права сялян Менскае губ." і інш. Скончыўшы ўнівэрсытэт, Д.-З.

*) Исследования и статьи, Кіеў, 1909, т. I, бач. 337-345.

ліва гаспадарскі) з дэталямі й захапленьням, што ад яго дыхала шчыраю навуковаю ноткаю. Дыкжэ гэта рабіла мне яго сымпатычным."***)

У 1918 г. Даўнар-Запольскі бярэць дзейнае ўчасьце ў працы Беларускае Рады, арганізаванае ў Кіеве. Тады ён напісаў працу „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі", што пасьлей была перакладзеная на 5 моваў.

Ведама, што пасьлей бальшавіцкая рэволюцыя прынесла Доўнару-Запольскаму шмат провокацыяў, крыўды й зьнявагаў. Ён пакідае Кіеў.

У 1925 г. проф. Доўнар-Запольскі быў запрошаны Беларусамі на сталую працу ў Інстытуце Беларускай Культуры і ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. У верасьні т. г., ён пераяжджае з Баку ў Менск (у Баку Д.-З. быў рэктарам унівэрсытэту).

У той 1925-26 акад. год, у Бел. Дзяр. Ун-це профэсар чытаў лекцыі з гісторыі гаспадаркі ў Беларусі. Чытаў ён лекцыі ў вактавай залі студэнтам пэдфаку і студэнтам фак. грамадзкіх навук. Але яго прыходзілі слухаць і студэнты іншых факультэтаў: акуратнымі слухачамі былі мэдыкі—„Радня".*) Лекцыі профэсара слухаліся зь вялікім захапленьням: багацьце гісторычных фактаў, абразоў рабілі лекцыі надзвычайна цікавымі. Кажная думка падавалася ім ясна й азначана (профэсар дасканальна валодаваў беларускай моваю). Іншы раз у неспадзяваных прыраўнаньнях далёкае мінуласьці й сучаснасьці чулася асуджэньне існуючага ладу.

Лекцыі слухаліся намі студэнтамі вельмі ахвотна. Працы профэсаравы „Гаспадарка Вялікага Княства Літоўскага за Ягайлавічаў", „Начыркі арганізацыі беларускага сялянства ў шаснанцатым стагодзьдзю" і інш. прараблялі мы ня зь меншай цікавасьцю, як слухалі ягоныя лекцыі.

Здавалі мы экзамен у веснавую заліковую сэсію 1926 г. Профэсар звычайна прымаў у сябе дома. Жыў ён тады пры Інстытуце Беларускае Культуры. Пакой, у якім мне давялося здаваць яму за-

---

***) Україна, Парыж 1951 г., № 6, бач. 449.

*) У першыя гады Беларускага Унівэрсытэту „Радняй" празвалі жартліва самі сябе сьвядомыя Беларусы студэнты. Паміж сабою Радня не баялася вольна разглядаць і палітычныя і нацыянальныя падзеі, што заўсёды было небясьпечным і недазволеным за „дыктатуры пролетарыяту". Паміж гэтае Радні проф. Доўнар-Запольскі карыстаўся найглыбшай пашанай.

лік, быў бібліятэкай профэсаравай. Высокія да самае столі паліцы, зь немаляванага дзерва, мясьціліся ня толькі ўздоўж сьценаў, а ў два рады праходзілі і па сярэдзіне пакою. Пісьменны стол быў прысунены да аднае з паліцаў, і таксама на ім было накладзена шмат кніжок.

У той веснавы дзень ценка цур'ём пераз адно з вокнаў бібліятэкі ўрываліся сонечныя косы, залаціліся ў сівых валасох профэсара, на адкладаным каўняру ягонай бранзовай аксамітнай кашулі і губляліся нейдзе ў запыленых пацямнелых тамох. Ён сядзеў, недалёка ад мяне, каля пісьменнага столу. Ягоны інтэліґентны энэрґічны від із шэрымі ўважлівымі вачыма на фоне пацямнелых тамоў быў падобны да абразоў вялікіх навучоных серадняveчча.

Залік здаваць проф. Д.-З. было прыемна. ён не „лавіў", ня ставіў заблытаных пытаньняў. Запісаўшы залік, профэсар задаў мне сьцяг сусім прыватных пытаньняў: аб студэнцтве, аб маіх суродзічах.

У мяне маймі вучыцелямі й радзімаю была ўзгадавана вялікая пашана да профэсара Доўнара-Запольскага, але з прычыны маладосьці мне не дано было тады зразумець, што дарога, па якой мы, маладыя, лёгка прышлі да свайго беларускага ўнівэрсытэту цяжка працярэблевалася нам і Доўнарам-Запольскім, што перада мною быў чалавек, якому ў гісторыі адраджэньня Беларусі пазьнейшыя вольныя пакаленьні прысьвяцяць ня мала слаўных бачынаў, што ў гэтым чалавеку сымбалічна сконцэнтраваліся і вялікія здольнасьці, і ясны розум, і траґедыя беларускага паднявольнага народу.

Асноўная праца й дзеяльнасьць проф. Д.-З. была разгорнена ў Інбелкульце. Адразу па пераезьдзе ў Менск ён перадаў у выдавецка-рэдакцыйны аддзел ІБК цэлы сьцяг працаў з гісторыі Беларусі. Ён-жа быў прызначаны адным із навуковых сакратароў гэтага аддзелу.

Уверасьні 1925 г. пачынае сваю працу гісторычна-археолёґічная комісія ІБК. пад кіраўніцтвам проф. Доўнара-Запольскага. У сувязі з апрацаваньням пляну гэтае комісіі, Д.-З. разам із другім навукоўцам, археографам Зьмітрам Даўгялам, была дадзена навуковая камандыроўка дзеля азнаямленьня з архівамі й музэямі Віцебску, Смаленску, Магілева й Кіева. Як вынік гэтае камандыроўкі, у 1927 г. Інбелкультам быў выпушчаны ў сьвет зборнік дакумэнтаў пад назовам „Беларускі Архіў" т. 1. Том зьмяшчае сьцяг дакумэнтаў, зыбраных проф. Даўнар-Запольскім і Зьм. Даўгялам, і мае

вялікае значаньне да вывучэньня аканамічнай і палітычнай гісторыі Беларусі.

Калі ў 1926 г., у студню месяцы, адбыўся першы Зьезд Дасьледаваньнікаў Беларускае Археолёґіі й Архэоґрафіі, проф. Д.-З. быў старшынёю зьезду. Ягоны даклад „Старыя беларускія архівы за межамі БССР" выклікаў шмат пытаньняў і рэзолюцыяў. Дэлегаты зьезду, даведаўшыся, што беларускія архівы галоўна ёсьць у архіўных сховах Масквы, Ленінграду, а часткава й Польшчы, паднялі пытаньне пра зьвярненьне архіўных фондаў, што датыкаюцца Беларусі, каб памагчы развою гісторычнае навукі ў Беларусі. Гэты даклад, а таксама выкліканыя ім рэзолюцыі, пасьлей, нажаль, „памаглі" толькі проф. Д.-З. ў вельмі адмоўным сэнсе.

У лютым 1926 г., навуковай радай ІБК была прынятая да друку „Гісторыя Беларусі" проф. Доўнара-Запольскага. Быў прыгатаваны да друку й другі этноґрафічна-фольклёрны зборнік, дзе зьмяшчаліся таксама працы профэсаравы. У лютым 1926 г., на першым усебеларускім краяведным зьезьдзе, Д.-З. прыняў удзел, як дэлегат. На гэтым зьезьдзе ён маў даклад: „Краяведная праца ў галіне гісторыі й археолёґіі".

Здавалася-б, шырака разгарнулася поле дзеяльнасьці вялікаму навучонаму, здавалася ўжыцьцяўлялася ўсё тое, пра што ён лятуцеў яшчэ маладым. Разам із ім, як і ў гады маладосьці, была навокал грамада Беларусаў (будучых „нацдэмаў"), што паходзілі, як і ён, зь беларускага народу, якія гатовыя былі сваё жыцьцё ахвяраваць на дабро вольнае бацькаўшчыны. З адраджэньням краю, нараджаліся новыя навучоныя, поэты, мастакі.

Але гэта зусім было не патрэбна маскоўскім бальшавіком. Наадварот, іх палохала красаваньне адроджанага краю. Ім толькі была патрэбна шыльдавая Беларусь дзеля палітыкі. І проф. Доўнар-Запольскі з найбагатшым арганізацыйным і навуковым дазнаньням рабіўся ім у Менску непажаданым і небясьпечным. Ім зусім не падабаліся навукова й аўторытэтна абґрунтаваныя дасьледаваньні Доўнара-Запольскага, што Беларусь мае права на палітычнае й нацыянальнае незалежнае быцьцё, што Беларусь да апошняга часу заставалася краям селавога гаспадарскага тыпу, безь вялікіх прамысловых цэнтраў (няма прамысловых цэнтраў — няма пролетарыяту), што ўсім Беларусам, якія воляю кону ў той час былі падзеленыя на ўсходніх і заходніх, ёсьць адна мова і адна мэта: вольная незалежная бацькаўшчына. Дзеяльнасьць, шырака разгорненая

проф. Доўнарам-Запольскім, парушала комуністых. Борзда яму далі зразумець, што ён павінен пакінуць Беларусь. Так, улетку 1926 г., профэсар вымушаны быў разьвітацца з бацькаўшчынай ізноў.

Сваю каштоўную бібліотэку, што складалася з адзінанцацёх тысячаў тамоў, ён перадаў Інбелкульту. Гэта бібліотэка была вялікім скарбам Беларусам. У ёй былі вельмі каштоўныя выданьні беларусаведы, у тым ліку і даўнейшыя выданьні Віленскага ўнівэрсытэту.

Зь Менску проф. Доўнар-Запольскі пераяжджае на жыцьцё ў Маскву. Аб дзеяльнасьці ягонай у Маскве мне ведама ня шмат. Перада мною толькі адна з апошніх ягоных друкаваных працаў: „Западный район (Беларуская ССР и Западная область РСФСР"), якая, як і ранейшыя працы, ілюструе адданасьць Д.-З. роднаму краю. Шмат чаго, што не падабалася бальшавіцкім кіраўнікам у дзеяльнасьці профэсаравай у Менску, шмат чаго, аб чым ім хацелася, каб ён не паўтараў, відаць, зь недагляду рэдактароў было надрукавана й пабачыла сьвет. Кніжка, выданая як падручнік да сярэдніх школаў („Западный район" ёсьцека адным із разьдзелаў „Экономической Географии СССР" под ред. М. В. Вольфа и Г. А. Мебуса, Масква 1928 г.), у тысячах тысячаў разышлася па ўсім СССР. Пэўна дайшла яна й да Беларусі.

У перадмове профэсар падчыркуе, што Смаленская губэрня, якая адышла да РСФСР, фактычна ёсьцека часткай Беларусі: „У старыя часы ладная часьць цяперашняй См. губ., апрача канцавога яе чараселца, цягнула да Смаленскага княства. Гэта княства было населена Крывічамі, прашчурамі цяперашніх Беларусаў. Заходняя паласа цяперашняе Бранскае губ. цягнула часткава таксама да прашчураў Беларусаў, да Радзімічаў. Але пасьлей узмацнелае Маскоўскае княства захапіла гэтыя заходнія ўскраіны і прылучыла іх да Масквы. Толькі з-за Смаленску ў Масквы была спрэчка зь Беларусяй у працягу колькіх стагодзьдзяў.

У выніку гэтага, заходнія часткі Смаленшчыны й Браншчыны і ў цяперашні час заселены беларускім пляменям, іншы раз моцна зруселым, іншы раз захаваўшы свае нацыянальныя асаблівасьці".

У „Кароткай гісторычнай даведцы" скарочана, але вельмі станаўко ён падаець гісторыю Беларусі. Ён спыняецца падрабязна на асаблівасьцях народнае гаспадаркі Беларусі. У часе, калі Беларусь належыла да Расіі, „Прамысловасьць разьвівалася ў Маскве й Вар-

шаве, а ў Беларусі ня было ні цэнтраў, ні капіталу, і яна апынулася на палажэньню рынку для варшаўскіх а маскоўскіх вырабаў".

У 1930 г., калі маскоўскімі комуністымі гатаваўся арышт, а пасьлей і процэс беларускае нацыянал-дэмократычнае інтэліґенцыі, зьявілася мноства артыкулаў у пэрыядычнай прэсе, вінавацячых беларускіх дзеячоў у вантыбальшавіцкай і антыпролетарскай ідэялёґіі й практыцы. Гэтыя артыкулы пісаліся на адмысловы загад комуністычнай улады. У 1930 годзе, кажны Беларус, прачытаўшы грозны, крытычны артыкул аб сваёй антыпролетарскай ідэялёґіі, ведаў, што арышт набліжаецца. Гэтак, у сакавіковым нумару „Полымя" за 1930 г., ня задаўга да арышту Язэпа Лёсіка, зьявіўся артыкул проф. С. Вольфсона (С. Вольфсон чытаў у унівэрсытэце лекцыі з дыялектычнага матар'ялізму) рэзка крытыкуючы навуковую працу акад. Язэпа Лёсіка і яго блізкіх супрацаўнёў. У гэтым артыкуле „Мова і клясавая барацьба" аўтар не абмінуў і проф. Доўнара-Запольскага: „Як быццам у ваднэй беларускай мове тварылі Дунін-Марцінкевіч і Міхась Чарот. Як быццам адна і тая-ж мова Менскай комуністычнай „Зьвязды" і Віленскай ксяндзоўскай „Крыніцы"... Не, тут дзьве мовы... Спробы затушаваць гэты факт не азначае нічога іншага, як імкненьні працягнуць праз філёлёгічныя вароты кантрабанду „адзінай рабоча-селянскай нацыі", якую спрабаваў „па вучонаму" угрунтаваць проф. М. В. Доўнар-Запольскі. Аб тым, наколькі гэтая справа клясава варожа пролетарыяту, казаць, зразумела ня прыходзіцца".

У тым-жа рэзка асуджальным прасьцінку можна знайсьці водгукі аб дзеяльнасьці проф. Доўнара-Запольскага ў друку 1931 г. Адзін із гэтых артыкулаў пад назовам „Афіцыйны гісторык нацдэмаў"*) зварочуе на сябе асаблівую ўвагу сваёй нягоднасьцяй, падобнай да менаваных нападкаў Вольфсонавых у 1930 г., і ўбоствам свайго зьместу. У ім аўтар — Ротман праяўляе такую гістарычную няпісьменнасьць, так бяссорамна хвальшуе гісторычныя факты, падаваныя Доўнар-Запольскім у ягоных працах, што адно ў комуністычным „раю" такая „пэрла" магла пабачыць сьвет. Ён даводзе, што Д.-З. „беларускі шовіністы", каторы лятуцеў пра злучэньне з „фашыстскай Польшчаю", бо ў вадным із сваіх дасьледаваньняў Д.-З давёў, што беларуская культура сваймі традыцыйнымі асновамі зьвязана з культураю Заходу, а ня Ўсходу. Не

*) „Савецкая Беларусь", Менск 1931 г., № 7.

падабаецца Ротману, што Беларусы й Д.-З. пасьмелі з пашанаю ўспомнець і адсьвяткаваць угодкі Пранціша Скарыны „сераднe-вяковага схолястыка, перакладаўшага біблію на „беларускую мову”. Абурае яго й тое, што Д.-З. ў сваім начырку „Да юбілею беларускага кнігадруку”, прысьвячаным Пр. Скарыне, успамінае палітычных а культурных дзеячоў беларускага народу XVI стг., як Міхал Глінскі, Сапега, Сьвірскі, Міхал Агінскі, Пётра Фальчэўскі, Хведар Скумін, Язэп Валовіч. Такая крытыка нацыянальнай дзейнасьці Д.-З., таксама і ацэна гісторычных фактаў і падзеяў выклікала-б толькі сьмех, калі-б яна ня была зроблена прадстаўніком дэспотычнай кіруючай улады, што ў сваіх руках дзяржыць долю асьміманцацімілённага беларускага народу.

І калі профэсар Доўнар-Запольскі памёр у Маскве ў 1934 годзе, ня сьмелі Беларусы прысьвяціць словы жалю й любасьці свайму вялікаму родзічу. Ані нэкралёгу, ані маленькай зацемкі. Маўчаць аб ім і савецкія энцыклёпэдыі. Запраўды, так бясьсьледна ізь зямлі можа зьнікнуць вядомы навучоны толькі ў Савецкім Саюзе.**).

## Працы проф. М. Даўнара-Запольскага.

„Очерк по истории кривичской и дреговичской земель до конца XII ст. (Киев 1891); „Документы Москов. архива мин. юстиц.”, т. I (Москва 1897); „К истории поземельной реформы в Ливонии 1580-2” (Москва 1899); „Акты Литовско-Русс. государства” (Москва 1900); „Спорн. вопросы в истории Литовско-Русс. сейма” (Спб. 1901); „Госуд. хозяйство в Литовском Княжестве при Ягеллонах” (Киев 1901); „Веревн. и разрубн. кн. Сев. края” (Спб. 1905); „Очерки по организации зап.-рус. крестьянства в 16 в.” (Киев 1905 г.); „Матерьялы для истории крепостн. права в России. Вотчинн. законодательство” (Киев 1905); „Украинские староства в первой пол. 16 в.” (Киев 1908); „Баркулабовск. летопись” (1909); „Торговля и промышленность Москвы 16-17 в.” (Москва 1910); „Идеалы декабристов” (Москва 1910); „Мемуары декабристов” (Киев 1907); „История русс. народ. хозяйства”, т. I (Киев 1911); „Обзор

---

**) У часе пісаньня гэтага артыкулу профэсар Л. Акіншэвіч памог у знаходжаньню некаторых матар'ялаў і профэсарка Н. Палонская-Васіленка параслала некаторыя жыцьцяпісныя даныя проф. Д.-З., за што гэтта аўтар выказуе ім шчырую падзяку.

новейшей русс. истории" (Киев 1912); Статьи по истории и этнографии Белорусии, ч. соб. в книге „Исследования и Статьи" (Киев 1909, т. 1); „Из истории обществ. течений в России" (2 выд., Киев 1910); „Календарь Сев.-Зап. края" (1889 і 90); „Белорусская свадьба"; этнограф. сборн. „Белорусс. Полесье, Пинчуки", т. 1; „На заре Крестьянской свободы" (Киев 1911); „Политические идеалы Сперанского" (1905 Москва); „Зарождение Министерств в России" (Москва 1906); „Реформа общеобразовательной школы при императрице Екатерине" (Москва 1906); „Польско-литовская Уния на сеймах до 1569 г." Истор. очерк (Москва 1898 г.); „Цэнтралізацыя ці фэдарацыя" (Менск 1925, час. Полымя, VIII); „Народное хозяйство Белоруссии 1861-1914 гг. (Менск 1926 г.); „Беларускі Архіў" (Менск 1927); „Западный район", Экономическая География СССР под ред. М. Б. Вольфа и Г. А. Мебуса (Москва 1928) „Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі" (Гродно 1919 г.).

**А. Саковіч.**

«Веда», №7 (12), 1952



Аляксандра Саковіч

Аб аўтары

Аляксандра Саковіч (Іна Каханоўсакя). Нарадзілася 14 сьнежня 1906 г. у Адэсе. Скончыла Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт, дзе была студэнткай праф. Мітрафана Доўнар-Запольскага, Усевалода Ігнатоўскага, Уладзімера Пічэты. Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэта выкладала ў школе, на Рабфаку пры БДУ, у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (Нямеччына). Літаратурнаю дзейнасьць пачала з 1944 г., калі ў часопісе «Раніца» (Бэрлін) ад 13 сьнежаня 1944 г. былі надрукаваны яе успаміны «Менск у 1930-1931 гг». У 1986 г. выйшла кніга А.Саковіч «У пошуках Праўды». Большасьць апавяданьняў й аповесьцей у ёй носяць аўтабіяграфічны характар.

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Браслаўскія чытаньні

Кліменці Кажан

21-22 красавіка прайшлі II Браслаўскія чытаньні. На іх зьехаліся навукоўцы зь Менску, Віцебска, Горадні, Таруні, Беластока, Ольштына, музэйныя работнікі Віцебшчыны, настаўнікі-краязнаўцы з Браслаўскага і суседніх раёнаў. У першы дзень была адкрыта выстаўка, прысьвечаная 200-годзьдзю паўстаньня 1794 году. Зь цікавасьцю прысутныя пазнаёміліся з работамі мясцовых мастакоў І.Рыдзікі: «Змагарам за незалежнасьць Бацькаўшчыны», «Рэйд Міхаіла Агінскага на Браслаўшчыне», «Паланэз «Разьвітаньне з Радзімай»; Э.Зінкевіча: «Героям паўстаньня 1794 году», «Песьня паўстанцкаму каню».

Першым на чытаньнях выступіў навуковы супрацоўнік Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музэя К. Шыдлоўскі, які расказаў аб паўстаньні 1794 году пад кіраўніцтвам Т.Касьцюшкі на тэрыторыі Браслаўскага павету. Гэта паўстаньне зьяўляецца адной з найбольш славутых старонак супольнай гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Яно стала важнейшым этапам нацыянальна-вызваленчай барацьбы трох суседніх народаў супраць чужаземнага прыгнёту. Цікавымі былі даклады вучоных зь Менску. В. Вінакураў расказаў аб ледавіковых валунах Браслаўшчыны як геалагічных помніках прыроды. Л. Дучыц зрабіла даклад «Браслаўшчына ў пэрыёдыцы XIX — пачатку XX стагодзьдзяў». Э.Зайкоўскі гаварыў пра духоўны сьвет старажытных браслаўчан. В. Шадыр расказаў аб вялікім перасяленьні народаў і яго сувязях з паўночнай Беларусьсю. В. Раманаў засяродзіў увагу на экалагічных праблемах браслаўскіх азёр. Навукоўцы з Горадні таксама парадавалі зьмястоўнымі матэрыяламі з гісторыі Браслаўшчыны. А. Майсяёнак пазнаёміў з жыцьцём і дзейнасьцю Эміліі Плятэр, гераіняй паўстаньня 1831 г. Г.Дземянчук расказала аб унікальным археалягічным помніку Браслаўшчыны—грунтовым магільнікам пэрыяду раньняга сярэднявечча, які знаходзіцца каля вёскі Пашавічы, на мысу возера Дрысьвяты.

Ч. Плятт (Ольштын) пазнаёміў з генеалогіяй роду Жабаў герба Касьцеша й яго сувязях з Браслаўшчынай і іншымі землямі Беларусі. С. Александровіч (Торунь) зрабіў вельмі цікавы і зьмястоўны даклад «Браслаўшчына на старажытных картах і плянах». Вучоны зь Беластока Алег Латышонак выступіў з дакладам «Радзіма Булак-Балаховічаўна Браслаўшчыне і Дзісьненшчыне да першай сусьветнай вайны» Настаўнік з Міёр Вітаўт Ермалёнак расказаў аб будаўніцтве порту ў Друі ў 1934 -1938 гг. Настаўнік з Відзаў Л. Дзікцяроў гаварыў аб гістарычным выхаваньні і школьных падручніках айчыннай гісторыі. Маё выступленьне было прысьвечана жыцьцю і дзейнасьці вядомага вучонага-этнографа Мар'яна Пецюкевіча, які

нарадзіўся ў вёсцы Цяцеркі, Браслаўскага павету, супрацоўнічаў у беларускім друку ў Вільні, Віленскім беларускім музэі, прайшоў праз сталінскія лягеры, плённа працаваў у музэі г. Торунь. Цікавым было выступленьне дырэктара Браслаўскага музэя Галіны Падалян. Яна расказала аб працы музэя над аднаўленьнем гістарычнага і этнаграфічнага жаночага касьцюма. Усяго было зроблена 20 дакладаў. Багатай была і культурная праграма чытаньняў. Адбылася імша ў Браслаўскім касьцёле ў памяць удзельнікаў паўстаньня 1794 г., выступіў парафіяльны хор. Удзельнікі чытаньняў пазнаёміліся з выставамі ў музэі, зрабілі экскурсыю на Замкавую гару.

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі**



**Embassy of the Republic of Belarus to the United States of America**

## Аб прыеме на вучобу ў ВНУ прадстаўнікоў беларускай дыяспары

Згодна з Тыповымі правіламі прыему на вучобу ў ВНУ Рэспублікі Беларусь на 1994 год "**асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, а таксама грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, маюць права на конкурснай аснове атрымаць бясплатную вышэйшую адукацыю ў дзяржаўных вышэйшых навучальных установах рэспублікі, калі яна атрымліваецца ўпершыню**".

Пступаючыя павінны падаць ці даслаць дакументы ў адпаведную ВНУ ( заяву на імя рэктара, дакумент аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале, 6 фотакартак памерам 3 x 4, медыцынскую даведку па форме 086У, а таксама дакументы, якія пацвярджаюць прыналежнасць да беларускай нацыянальнасці або грамадзянства Беларусі ). Кожная ВНУ распрацоўвае свае ўласныя правілы прыему, якімі прадугледжваецца парадак, тэрміны правядзення ўступных экзаменаў і іншыя пытанні адносна паступлення ў ВНУ.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары, якія паспяхова здалі ўступныя экзамены і прайшлі па конкурсе, будуць залічвацца на вучобу **на агульных з жыхарамі Беларусі падставах: атрымліваць дзяржаўную стыпендыю, месца у інтэрнаце, бясплатна карыстацца вучэбна-матэрыяльнай базай ВНУ.**

Асобы, якія станоўча здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсе, могуць быць залічаны звыш кантрольных лічбаў прыему пры ўмове аплаты за навучанне, прычым гэтае пытанне, ў кожным канкрэтным выпадку, разглядае прыемная камісія ВНУ, памер аплаты за навучанне вызначае кожная ВНУ самастойна.

Па ўсіх пытаннях паступлення ў ВНУ рэспублікі прадстаўнікі беларускіх суполак могуць звяртацца ў *Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ( 220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9 )* ці непасрэдна да супрацоўнікаў міністэрства *Парфянцовай Ларысы Аляксееўны ( тэл. 20-62-72)* і *Пяцігора Генадзія Міхайлавіча ( тэл. 20-30-66 ).*



